
Ідыш і эсперанта → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Прапаўшыя суседзі → 4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (3198) Год LXII Беласток, 27 жніўня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


■ «Давід Шымчук Бэнд»

# На Панцеляймона ў Семяноўцы

Дзевятага жніўня на фэст у дзень святога велікамучаніка Панцеляймона, лекара і аздараўляльніка з Нікамідзіі (+305 г.), апекуна могільнікавай капліцы Семяноўскага прыхода Юрыя Пераможцы збіраюцца тлумы. Незалежна ад таго, ці свята прыпадае ў афіцыйны будні дзень. Нават лепш, калі гэта аўторак, як сёлета, бо можна з Беластока даехаць у Семяноўку пад вечар (якраз перад 17 гадзінай). У святочны дзень і суботу ў Семяноўку пасля поўдня не даедзеш ані з яе выедзеш у Беласток. А гэта ж над славутым Семяноўскім вадасховішчам, якое мела быць для турыстаў перш за ўсё з «беластоцкай агламерацыі». І хаця войт Нараўчанскай гміны гатовы дапляціць «новаму ПКСу», фірме, якая падлягае таксама самаўраду — Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства, ПКС лічыць, што «не аплачваецца» яму пасылаць туды — у адну з лепшых і большых гмін у краіне! — больш аўтобусаў. А людзі могуць сабе ездзіць на аўто, засмуроджваючы Белавежжа. Або на веласіпедах. Як сёння на аб'ючаных роварах турысты, наведваючыя нашы шляхі Грынвела, што пад'ехалі на пляцоўку пад былой семяноўскай школай, цяпер цэнтрам адукацыі з гатэлем і выдатнай кухняй. Імпрэза пасля службы і пасвячэння магілак праводзіцца на пляцы каля былой пачатковай «тысячагодкі», цяпер разбудаванай, акаленай старымі дрэвамі, якія помняцца мне яшчэ як маленькія елачкі, за якімі мы хаваліся, пераапранаючыся на заняткі па фізкультуры. Гэты пляц, з паветкай пад вогнішча і іншымі прыладамі для адпачынку, цягнецца брукаванай ружовай сцежкай аж пад бакавую семяноўскую дамбу, якая засланяе від на падсохлае за гарачае лета возера; здалёк відаць хрыбет славутага моста, па якім можна было даехаць у Цісоўку і далей у Беларусь. Па баках пляца растуць старэнькія яблыні, якія яшчэ пладаносяць...

Людзі прыйшлі сюды і прыехалі, каб паслухаць беларускую ў большасці песню, пасмакаваць тых цудаў, што калісь мы, малыя, куплялі на Юр'я ці Пакрову пад белай царквой святога Юрыя. Калісь стралялі коркі-капішоны, на латках было поўна ледзянцоў у выглядзе пеўнікаў, а сёння тут цацкі, якія самі плаваюць, лятаюць, бегаюць, мяўкаюць і гаўкаюць. Электроніка! І амаль кожны слухач мае пад вухам таксама свой тэлефон, і стары, і малы — усё-такі Семяноўка спалучана са светам праз небныя нябачныя спадарожнікі. А па небе цягнуцца смугі ад самалётаў. Гучыць песня «Цаглінак» на словы Мікалая Варанецкага з Альхоўкі, спевака з «Нараўчанак»:

*Чайкі, зноў кружаць чайкі над азёрнай імглой. Зноў белакрылыя чайкі над семяноўскай вадой. Чайка, семяноўская чайка, мне памахала крылом... А я табе, белакрылая чайка, а я табе памахаю рукой. Край мой, край мой балотны, край мой, край дарагі! Шлюць табе прывітанне чайкі і рыбакі...*

Семяноўскае возера цяпер свойскае, быццам было ад заўсёды, і сюды прылятаюць пералётныя птахі-сваякі, ужо да сябе...

— Гэта мая родная вёска, — Галена-Марыёля Рэент, з роду Карпюкоў, дырэктарка ГЦК у Нараўцы. — Як штогод, 9 жніўня ў нас прыхадское памінальнае свята, якое завяршаецца музычным, культурным беларускім народным фэстам. Арганізуем яго мы самі, Нараўчанская гміна і ГКЦ у Нараўцы. Мяне вельмі цешыць тое, што так многа людзей прыходзіць і прыязджае, што надвор'е такое добрае, сугучнае настрою людзей. Людзі чакаюць такіх мерапрыемстваў, нагоды для сустрэч, успамінаў, прыязджаюць і прыходзяць з усёй гміны, ёсць і суседзі. Паказваем тое, што ў нас найлепшае з беларускай культуры. Шмат турыстаў, якія пасля нясуць пра нас вестку ў свет. Неўзабаве і мы ў Варшаве пакажам выставу нашых найлепшых мастакоў, перш за ўсё плён мастацкіх пленэраў, сабраных у Галерэі імя Тамары Саланевіч, будзе багатая выстава мабыць пад назовам «Колеры Нараўчанскай зямлі».

— Ой, не падабаецца! — смяецца пані Маруся з Баравых. — Не падабаецца нам, старым, бо ж не дамо рады танцаваць пад сцэнай, не маем сілы. А што нам, старым, падабаецца? Нічога! Ха-ха! Ано наракалі б!

Але ж і на сцэне таксама ёсць немаладыя, трапляюцца і равесніцы пані Марусі. Скажам, у «Нараўчанках», што нядаўна вярнуліся з замежных выступаў з Латвіі. Гурт падмацавалі дзядзькі з Семяноўкі, якія рэжуць на гармоніках і бубнах. Адна радасць, бадзёрасць, захопленне ад песні, тэмперамент. Проста гарачь на сцэне, і гэтая жывасць перадаецца публіцы.

Першы раз выступіў у Семяноўцы сямятыцкі «Оморфос» з Галенай Шчыгол. Дзяўчаты са зладжанымі галасамі, якія спяваюць у царкоўным хоры, на сцэне а капела, не першы раз на фестывалях і фэстах проста заварожваюць публіку, часам можа звыклую з тым, што некаторым гуртам іхнія галасы заглушвае нахабная фанаграма... Рэжуць «бяссовесна» з плэйбека, а людзі ж чуюць і бачаць. Нават непрыстойнае «ляпаюць» раз за разам... Не, не сёння! Тут такіх няма! Жывыя «Росы» з Вясковага дома культуры ў Рыбалах, «Дынг Донг» з Беластока з найлепшым хіба беластоцкім шоўменам Міркам Цясноўскім, «Давід Шымчук Бэнд» — вельмі таленавіты і амбітны разам і асобна кожны спявак і інструменталіст. Ну і «Арт-Пронар» з Нарвы, які спявае песні аўтараў, пра якіх не ведае (між іншым мае ☺ ), але шчыра і з шоўменскім размахам, з жартамі тыпу «Гэты дзядзька танцуе так, быццам яму музыка не мяшала». Пасля — трохгадзінная забава з беластоцкім гуртам «Аксель» да глыбокай ночы, пад зіхоткімі зоркамі.



Вяла сустрэчу Кацярына Бяляўская, адна з самых выдатных дзеячаў культуры Падляшша, гісторык, археолаг і аніматарка культуры. Пра такіх сціплых па натуры, карпатлівых працаўнікоў культуры, вельмі заслужаных для ратавання і развою нашага, гаворыцца і пішацца няшмат. Бо яны не дзеля гэтага «анімуюць» нашу культуру. Як і Галіна Панкоўская, што збірае роднае, між іншым карціны і дываны святой памяці Янкі Мароза. А такія фэсты, быццам бы несур'ёзныя святочна-сямейна-суседскія гулянні, вельмі многа значаць для тутэйшых землякоў. Яны чакаюцца не менш, чым легендарная «наша» «Лявоніха», як чакаліся ў Семяноўцы «ёлачкі» з выступамі таксама малышоў (славутая дэкламацыя ніўскага верша пра бульбу Жоржыкам з Баравых) і беларускімі тэатральна-спявацкімі пастаноўкамі «Сямян». Хто ж не памятае выступленняў Янкі, Марысі, Гені, Рыська?.. Не зачыняюцца людзі перад сваімі каляровымі ўжо тэлевізарамі ў Семяноўцы, ідуць пабачыць, паслухаць, і самі паказацца... А дзядзька Вася Бірыцкі, паэт які не піша а гаворыць свае вершы, зноў трапна падвядзе цяперашнюю сітуацыю рыфмаваным словам...

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**


9 770546 196000



# Буферная зона

Ніхто не хоча ваяваць на сваёй зямлі. Але не заўсёды так атрымліваецца. Прыкладам савецкая даваенная прапаганда заўсёды падкрэслівала, што Чырвоная Армія будзе біць ворага выключна на яго тэрыторыі. І гэта моцна ўплывала на звычайных грамадзян. Галодныя і бяспраўныя людзі знаходзілі ў сябе апошнія сілы, каб цярпець усе цяжкасці кіравання камуністычнай сістэмы, абы ў іх хаты не прыйшла вайна. Але вайна прыйшла, бо генералы гітлераўскай Германіі таксама збіраліся біць ворага на чужой тэрыторыі. Наваяваліся тады ўсе. І на чужой тэрыторыі, і на сваёй. А тыя, хто асабіста паўзалі пад кулямі, шчыра верылі, што чалавецтва больш ваяваць не будзе ніколі. Але ў тых, хто імі кіраваў, былі іншыя думкі наконт гэтага. Ім нават спадабалася пагуляць у вайнушку. Вось толькі каб не на сваёй тэрыторыі. А то рыкашэтам які снарад можа не туды даляцець.

Вось таму пасля Другой сусветнай вайны Савецкі Саюз вельмі моцна заангажаваўся ў стварэнне буферных тэрыторый. Маўляў, у выпадку чаго будзем ваяваць там. Гэта былі краіны Усходняй Еўропы з марыянетачнымі рэжымамі, якія не маглі пярэчыць волі і загадам Крамля. Вось на такіх тэрыторыях саветы любілі праводзіць вайсковыя вучэнні. Самым маштабным было „Захад-81". Акурат у гэтым годзе мяне прызвалі ў савецкае войска на адну з такіх буферных тэрыторый — у Чэхаславакію. Таму ёсць што ўспомніць, бо быў непасрэдным відавочцам як адразу пасля гэтых вучэнняў пачаліся наступныя, „Шчыт-82". І калі на вучэннях „Захад-81" адпрацоўваліся баявыя схемы ўзаемадзеяння звычайных узбраенняў, то „Шчыт-82" ужо прадугледжваў адпрацоўку навыкаў прымянення ядзернай зброі. А чаму б і не пазначыць на нейкай буфернай зоне кропкі такога прымянення? Гэта ж па вялікім рахунку чужая зямля. Галоўнае, каб вораг да Крамля не дайшоў.

Зараз у таго Крамля марыянетачных рэжымаў значна паменшала. А непрыяцеляў Масква штампуе як па заказе. Таму, каб праводзіць вайсковыя вучэнні ў буфернай зоне, дзе ў прынцыпе і павінны ў разе чаго праходзіць самыя страшныя баявыя дзеянні, выбар невялікі. Гэта ў першую чаргу Беларусь, у другую і трэцюю чаргу зноў Беларусь, у чацвёртую і пятую таксама Беларусь. Правядзенне вайсковых вучэнняў „Захад-2017" гэта пацвярджае. У нашу краіну ўжо паехала баявая тэхніка з усходу і пацягнулася жывая сіла. Адпаведна, не трэба быць надта разумным, каб уявіць, што ваенныя галовы заходніх краін пачынаюць настройваць сваю баявую машыну таксама менавіта на гэтую тэрыторыю. Пра ядзерную зброю думкі хіба што залазяць у галовы абодвух бакоў. Бо буферная зона на тое яна і буферная, што яна чужая для ўсіх галоўных гульцоў у вайну. І менавіта на яе прыходзіцца максімальная колькасць і наўмысных і памылковых удараў.

Што ў такой сітуацыі робіць кіраўніцтва Беларусі? Толькі тое, што можа рабіць — добры выраз фізіяноміі пры кепскай гульні. Яны сцвярджаюць, што гэта нашы вучэнні таксама. Тое самае казала кіраўніцтва Чэхаславакіі, калі я там служыў. Але чэхаслвацкія жаўнеры на тых сумесных вучэннях не выказвалі гарачай падтрымкі такой заяве. Наадварот. Адзін чэшскі дэсантнік неяк ціхенька мне паведаміў, што калі пачнецца сапраўдная вайна, то яны будуць ваяваць на другім баку...

Ніякай вайны не спатрэбілася. Не прайшло і дзясятка гадоў пасля тых самых маштабных вучэнняў, якія мелі за мэту напалохаць увесь свет і паказаць неверагодна вялікую баявую моц Савецкага Саюза, як Савецкага Саюза не стала. Яго знішчылі не ваенныя сілы НАТА, на супрацьстаянне з якімі былі выкінуты шалёныя сродкі. Яго знішчылі зусім іншыя фактары. А бяздумныя і бясконцыя, ды ў дадатак непад'ёмныя для эканомікі краіны толькі дапамаглі правядзенню вайсковых вучэнняў ды стварэнню буферных зон.

Думаю, што і гэтыя вучэнні не паспрыяюць нармалізацыі адносін Расіі з Захадам. Але гэта іх праблемы. Нашы ж праблемы ў тым, што мы сталі буфернай зонай. І мы будзем гэтай буфернай зонай незалежна ад таго, ці пойдуць рускія салдаты пасля гэтых вучэнняў дахаты, ці застануцца тут. А ў такой зоне існаваць, мякка кажучы, не зусім бяспечна.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Інструкцыя
## як гладзіць ката



Часам у мяне складаецца ўражанне, што большая частка чалавецтва перамясцілася на пастаянна ў віртуальны свет. З рэальнага. Доступ у інтэрнэт мае ўжо 2/3 чалавечай папуляцыі. У большасці серфуюць у ім маладыя. Але і старэйшыя хіба паддаюцца яго бестурботнай прывабнасці. Здавалася б, бестурботнай. Нельга без наступстваў аддзяляць цела ад розуму, а розум ад біялогіі. Немагчыма аддзяліць беспакарана віртуальны свет ад рэальнага. Інтэрнэт становіцца сур'ёзнай праблемай. Гэта праўда, гэта ўсяго толькі інструмент, свайго роду складаны інструмент аўтаматызаваных матэматычных алгарытмаў, але ўсё больш і больш пранікае ў біялагічную і псіхалагічную чалавечую структуру. Ці як чалавецтва мы дараслі да інтэрнэту і віртуальнага свету, які адкрываецца перад намі? І ці, увайшоўшы туды, мы знойдзем шлях назад у рэальны свет? Я даўно страціў рахункі, які з гэтых светаў больш шматлюдны. У якім з іх на самой справе чалавечыя розумы існуюць фактычна, а дзе робяць выгляд. Гледзячы на свет, які ёсць сёння, поўны агрэсіі і нянавісці, я няўпэўнены, ці не ўдзельнічаю ў нейкай камп'ютарнай гульні трансляванай праз інтэрнэт. А няма на самой справе такой гульні, якая абышлася б без крывавай бойні і забойстваў. Ідэалогія смерці, здаецца, пранізвае чалавечыя мазгі да іх самых першабытных слаёў, у якіх захоўваюцца рэптыльныя інстынкты. А тое што ў Віртуаліі, тое і ў Рэальнасці. Мадэль гвалту, варожасці становіцца ўсё больш і больш распаўсюджанай з'явай. Толькі тое, што адбываецца, бышцам бы не адбываецца. Тэракты вельмі рэальныя. Гэта не гульня! Гэта сапраўды адбываецца. Амаль за кожнай такой атакай стаіць г.зв. Ісламская дзяржава. Ці, па меншай меры, яна хоча стварыць уражанне глабальнага гульца, аўтарызуючы так свае акцыі, як і вар'яцтва незалежных фрустратаў. Вядома, карыстаецца прытым інтэрнэтам. Гаворка ідзе аб псіхалагічнай стратэгіі, якая як у ката, які, убачыўшы сабаку, стаўбуніць хвост, каб паказацца большым і пагрозлівым. І здараецца так, што сабака ўцякае, хоць, магчыма, ён проста хацеў радасна прывітацца з катом. Але не пра ката і сабаку гаворка, а пра людзей. Справа ў тым, што адзін чалавек можа спанікаваць, прайграць са страхам, які расце ў яго вачах, і, нарэшце, адысці, схавацца ці ўцячы на новагвінейскія Трабрыяндскія астравы. Але грамадствы трымаюццапэўных меж культуры і цывілізацыі, у іх няма выбару. Яны падобныя да ўкаранёных на месцы дрэў. Альтэрнатыва для іх альбо абарона, або атака ў імя абароны. Няма іншага выбару. Заўсёды агрэсія. У імя чагосьці, або вышэйшых прычын або неабходнасці. Пытанне заключаецца ў тым, ці гэта абарона ад фундаменталісцкага ката, ці атака на яго пухнаты хвост? І яшчэ адно важнае пытанне: ці грамадствы, як каты з сабакамі, не маглі б жыць разам у дружбе або хай бы ва ўзаемнай павазе? Ну, не могуць, пакуль на пярэднім плане іхнія культурныя і цывілізацыйныя інстынкты, іх асобнасці і асаблівасці, нацыяналізмы і гістарычнае мінулае, пачуцці крыўды. І, нарэшце, рэлігійныя і ідэалагічныя адрозненні. Сам я нядаўна слухаў жкыўленую дыскусію праваслаўных з каталікамі — старэчаў з абодвух бакоў спрэчкі — за тое, чыё веравызнанне першае, старэйшае, больш важнае. Амаль у бой рушылі палачкі, на якія яны апіраліся. На шчасце, ці на няшчасце, скандал кончыўся ўз'яднанай лаянкай на Еўрапейскі Саюз! Што забірае людзям зямлю, што навязвае чужыя каштоўнасці, што ўпускае ў дзяржавы-члені тэрарыстаў. Як на іронію Гісторыі гучалі гэтыя несправядлівыя абвінавачванні. Адная ідэя еўрапейскай супольнасці спрабуе прымірыць грамадствы, як перасвараных з-за інстынктаў сабак і катоў. Ну, ідэя правільная, але толькі тады, калі яе зразумела растлумачыць. У сувязі з гэтым шмат заняд-банняў. Шмат у чым адмовіліся. Сёння на гэтай нядбайнасці і адмаўленні, на страхах, расчараваннях непаінфармаванай грамады жыруе кіруючая партыя — і зноў як ні парадаксальна — выкарыстоўваючы ключавыя паняцці ідэй еўрапейскай супольнасці: Права і Справядлівасць. Ці сапраўды мы хочам, каб выйсці з Еўрасаюза?

Што ж тычыцца расчараваных, іх лік хутка расце. Яны з'яўляюцца ўсюды. Нават у Расіі, якой роля ў пашырэнні глабальнага тэрарызму па меншай меры неадназначная. У спакойнай Фінляндыі паявіўся галаварэз. Нейкі вар'ят пагражаў людзям у Парыжы. У мінулыя выходныя наступны фрустрат накінуўся на нявінных мінакоў з мачэтэ. Гэта было не дзесьці там, а ў Польшчы.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Злётаць у Моталь (2)

Злётаць у Моталь на восьмы Міжнародны фестываль фальклору «Мотальскія прысмакі» не было справай лёгкай. А гэта перш за ўсё па прычыне надвор'я. У Беларусі 12 жніўня з неба, так як і ў папярэдніх днях, ліўся не жар, а проста сплывала хваля пажарнага ўдару. У краіне было аб'яўлена аранжавае папярэджанне, а цэнтрам невыноснай гарачыні стала менавіта Берасейшчына. Узрастала таксама і палітычная тэмпература ў гэтай вобласці, а то дзякуючы гаспадарчаму візіту Аляксандра Лукашэнкі, які асабіста прыехаў туды дагледзець «бітву за ўраджай» на палескіх прасторах. Як заўсёды малацію ён няблага па сваіх чыноўніках. Добра ўлупіў, бо, як можна дадумацца, пот сплываў ім не толькі па тварах. Зрабіў такую лазню проста на ўборачных палях, што і не трэба было ім парыцца ў «баньцы», каб скінуць лішак вагі. Пра расслабленне ў такіх умовах нават і гаворкі няма. Таму пры такой напружанасці надвор'я, палітыкі і эканомікі маё бестурботнае падарожжа ў машыне з добрым кандыцыянерам было проста неўтаймаванай радасцю. І дзякуючы шматлікім рэкам Беларусі мой арганізм вытрымліваў невыносную спёку і даваў сабе рады з праблемай павышанага ціску. Ну, але зыдзем з абочын шматвектарнасці думак і пяройдзем да галоўнага — мотальскіх смакаў.

У суботу апоўдні, калі ртутны слупок падняўся да адзнакі ў 35 градусаў са знакам плюс, трапілі мы ў мотальскія панадворкі. Такіх, як мы, аматараў атрымання асалоды для цела і душы было пад некалькі тысяч мясцовых і прыезджых гасцей. Мой сябра вокам знатака вылоўліваў рэгістрацыі машын і спраўна ўстанаўліваў канкрэтныя вобласці іх паходжання. З'ехалася ўся Беларусь: Магілёўшчына, Гомельшчына, Віцебшчына, Міншчына, ну і зразумела — Берасцейшчына. Усе стараліся ўціснуцца ў нейкае свабоднае месца на мясцовых вуліцах. Найменш на здзіў было рэгістрацыйных нумароў з суседняй Гарадзеншчыны. Мо гарадзенская капрызнасць і ганарлівасць не дазваляе ім прызнаць паспяховасць паляшуцкай кемлівасці? Затое красавалася процьма машын з расійскімі нумарамі. Расійскія турысты на Берасцейшчыну прыплылі ў выніку адтоку з Украіны. Усё ж такі прывабіў іх імідж еўрапейскасці Беларусі. Але гэта асобная тэма для роздумаў.

Былі і дыпламатычныя нумары. Адразу пасля прыезду прыдбаў я буклет імпрэзы і заўважыў, што на першым месцы акцэнтуецца міжнароднасць фальклорнай сустрэчы, а «Мотальскія прысмакі» — у двукоссі — гэта толькі другая частка назвы фестывалю. Сапраўды, музычная частка была моцна насычанай. Знайшлося ў ёй і месца для ляўкоўскіх «Цаглінак», якія, паводле афіцыйнай «навамовы», выступалі ў якасці польскага калектыву. Мова выступленняў берасцейскіх і раённых вертыкальшчыкаў была выключна расійскай, а выступ міністра культуры Беларусі Барыса Святлова на роднай мове быў на гэтым фоне выняткам. Аніяк не можа, ці не хоча зразумець чыноўніцтва, што, ідучы шляхам русіфікацыі, заціскае на сваёй шыі нябачную пятлю знікнення, якая ў першую чаргу ім рыхтуецца. На шчасце, у адрозненні ад іхняй расійскай афіцыйшчыны, на ўсёй фестывальнай пляцоўцы гучалі сваім багаццем палескія гаворкі. Увесь фестываль — гэта такі паляшуцкі сямейны фэст-з'езд. Кумы, хрышчоныя, сванькі цалаваліся і віталіся паміж сабою з такой радасцю і ўсмешкай, што мая душа і ўсмешка ззялі такой радасцю, якую прыходзілася мне адчуваць у дзіцячыя гады ў час прыхадскога свята Успення Багародзіцы. Большасць удзельнікаў свята гаманіла пра сваё па-свойму. І, бадай, тыя машыны з розных абласцей Беларусі гэта той раскінуты паляшуцкі род, які кожныя два гады стараецца прыехаць у свае родныя гнёзды. Затое мясцовыя маладыя жулікі дамаўляліся ўжо на фокусы вечаровую парою. А як прынята ў нашай традыцыі, пажылым жанчынам, трымаючыся за рукі, спадарожнічалі іхнія дочкі з унукамі. Мотальскія моўныя прысмакі сталі для мяне самымі важнымі фестывальнымі здабыткамі. Але ж хапала і яды, на якую турысты не шкадавалі грошай. Бо толькі паляшук у Моталі над каўбасамі і кумпякамі вывесіць лозунг: «Без сала і каўбасы не пацягнеш касы». Хай кожны разумее па-свойму.

**Яўген ВАПА**

# Я так мучыўся, але мне гэта было цікава!

**Прафесар Ханан Бордзін** у Габрэйскім універсітэце ў Іерусаліме выкладае мовы ідыш і габрэйскую. Гэта адзіны ўніверсітэт у свеце, на якім заняткі адбываюцца на мове ідыш. Прафесар Бордзін таксама эсперантыст. Менавіта дзякуючы таму нядаўна змог наведаць горад Людвіка Заменгофа — Беласток.

**— У Беласток Вы прыехалі дзякуючы кантактам з тутэйшымі эсперантыстамі, але адначасова шукаеце яўрэйскага і беларускага Беластока.**

— Мая бабуля размаўляла на ідыш, але яе другой мовай была беларуская. Гэта не была руская мова. Мая мама гаварыла на «велікасвецкім» рускім. Пазней я зразумеў, што бабуля карысталася менавіта беларускай мовай. І мяне заўсёды цягнула не да ўкраінскай, не да польскай моў, а вось да беларускай — салодкай, цёплай, мяккай... Я ўміраў па ёй. Заўсёды!

**— Але гэта мова эсперанта прывяла Вас у Беласток?**

— Мову эсперанта я вывучыў пяць гадоў таму. Тады я пазнаёміўся з эсперантыстамі з Польшчы. Адной з іх была Ніна (эсперантыстка Ніна Пятухоўская). Я заўсёды ведаў пра існаванне Беластока — самага яўрэйскага горада ў працэнтным складзе насельніцтва. Большага горада, бо маленькіх было шмат. У сталічным Мінску было 50 працэнтаў яўрэяў... Большага горада, дзе да вайны пражывала 75-80 працэнтаў, нідзе не было! У літоўскім Іерусаліме — Вільні было 40 працэнтаў яўрэяў, але не восемдзесят (*смех*). Той горад з'яўляецца часткай майго яўрэйства — літоўска-беларускага.

**— Вы нарадзіліся ў Рызе, а дзе жыла Ваша бабуля?**

— Мая бабуля жыла ў вёсцы Шыпова. Дзе яна? Я не маю паняцця! Шукаў, але нічога не знайшоў. Ні ў энцыклапедыі, ні ў інтэрнэце... Мабыць, яна ўжо не існуе. У ейным пашпарце было напісана: Шыпова, БССР. Шыпова было чыста беларускай вёскай. Бабуля заўсёды мне расказвала: у нас былі адны Змітрукі і Петрукі. У яе быў прыгожы чысценькі літвацкі ідыш. А на рускай мове яна гаварыла з такім незразумелым для мяне акцэнтам. У гэтай вёсцы была толькі адна яўрэйская сям'я. У бабуліных бацькоў было 12 дзяцей. Бабуля нарадзілася ў 1884 або 1886 годзе. Калі я пра гэта гавару маім студэнтам, яны адразу пытаюцца: «Тады колькі табе гадоў!?» (*смех*) Проста яны позна вянчаліся і нараджалі. Мая бабуля позна выйшла замуж, мая маці таксама, ужо пасля вайны ў 36 гадоў. Я позняе дзіцё.

**— Апрача памяці пра беларускамоўную бабулю Вам удалося наладзіць кантакты з беларусамі ці яўрэямі ў Беларусі? Цікавіцеся Беларуссю?**



https://www.facebook.com

**Прафесар Ханан Бордзін** нарадзіўся ў Рызе ў 1958 годзе. У 1978 годзе сям'я была рэпатрыяваная ў Ізраіль. Завяршыў вучобу на Габрэйскім універсітэце ў Іерусаліме, дзе сёння выкладае ідыш і габрэйскую мову. З'яўляецца аўтарам некалькіх падручнікаў да навучання мовы ідыш, а таксама англійска-ідыш слоўніка назваў мясцовасці.



Сейны (злева) — Пшэмыслаў Вежбоўскі — старшыня Беластоцкага таварыства эсперантыстаў, Уля Шубзда, Агнешка Шубзда, Ханан Бордзін

Фота Ніны Пятухоўскай

— У Вільні я вёў курсы па мове ідыш пры ўніверсітэце. Адной з першых спраў, якую я зрабіў, было тое, каб менавіта ў Вільні наведаць Таварыства беларускай культуры. Я ведаў, што Вільня гэта таксама культурная сталіца Беларусі . «Наша Ніва» адгэтуль пайшла! У Вільні на маіх курсах вучыўся Саша Астравух з Мінска, беларускі нацыяналіст. Ён для мяне расказаў такую рэч: у брэжнеўскія часы ў Мінску сарганізавалася група беларусаў, якія размаўлялі з сабою прынцыпова на беларускай мове. Пазней яны сталі вывучаць ідыш. Матэрыялаў не было. Яны ўзялі пераклад на ідыш «Малой зямлі» Брэжнева (*смех*). Менавіта на гэтай кніжцы, на тым перакладзе вывучалі ідыш. Вось гэтая група беларускіх нацыяналістаў дайшла да вываду, што ім трэба ведаць і ідыш. Менавіта Саша Астравух склаў ідыш-беларускі слоўнік, такі таўшчынны, што можна чалавека ўбіць.

**— Вам удалося наведаць Беларусь?**

— Менавіта Саша Астравух, мой студэнт і друг, запрасіў мяне ў Беларусь. У яго жонка, дзеці, але амаль тры тыдні вазіў ён мяне па васямнаццаці мясцінах Беларусі. Вядома, я не мог пабачыць усяго... Хаця там дыктатура, але ён мяне ўзяў у Мінск, у месца, дзе вісеў нацыянальны беларускі бел-чырвона-белы сцяг. Там пазнаёміўся я з Вячаславам Лапцікам — чалавекам, які загаварыў са мной на іўрыце. Аказалася, што ён напалову яўрэй, напалову беларус, што жыў у Іерусаліме недалёка ад мяне. Ён вучыўся ў перыяд беларусізацыі, да Лукашэнкі, закончыў беларускія школы. Ён — пісьменнік. Менавіта ён напісаў і падараваў мне сваю кніжку «Сцяна плачу» на беларускай мове. Гэта расказы пра Ізраіль.

**— Гэта была Ваша першая беларускамоўная кніжка, якую прачыталі?**

— Першая мая кніжка, якую я прачытаў на беларускай мове гэта, альбом па беларускай гісторыі. Там гісторыя канчаецца на часах БНР. Я ўсю гэту кнігу прачытаў са слоўнікам. Я так мучыўся, але мне гэта было цікава!

**— Мову ідыш можна падраўняць да беларускай, праўда?**

— Так, толькі вядома, беларуская мае дзяржаву. Але ўсім зразумела як яна выглядае. Калі Саша вазіў мяне па Беларусі, я купіў вялікую колькасць кніг — перш за ўсё паэзію, напрыклад, Максіма Багдановіча. На самой справе калі я пайшоў у Музей Максіма Багдановіча ў Мінску, там пачалі для мяне ўсё расказваць на расійскай мове. Я іх прасіў: «Можаце па-беларуску?». І пазней гавару Сашы: «Ну як гэта так? Што за праблема? **Я заўважыў, што беларусы па абодвух баках мяжы маюць паралельныя праблемы адносна мовы і пачуцця нацыянальнасці. Некаторыя называюць сябе „тутэйшымі". Добра, гэта не літаратурная мова, але ва ўсім свеце, напрыклад, у Англіі ёсць мноства дыялектаў, але ўсе яны англічане. Яны, бывае, не разумеюць адзін аднаго. У Германіі ўвогуле не разумеюць, але ў іх ёсць адзіная афіцыйная, літаратурная, нарматыўная мова. І яны ўсе немцы. То скажыце, беларусы, што за праблема!?**

**— Вашай духоўнай дзяржавай застаецца ВКЛ?**

— Абсалютна. Яўрэйскай Літвой з'яўляецца Беларусь. У яўрэйскай мове вылучаюцца тры большыя дыялекты: літоўска-беларускі, украінскі і польскі. Літоўска-беларускі гэта дыялект Эстоніі, Латвіі і Літвы, Беларусі, паўночнай Украіны. Мы ўсе называем сябе літвакамі. Усе! Яўрэі і з Літвы, і з Беларусі — гэта тое ж самае. Няправільна гавораць: гэта літоўскі яўрэй, гэта беларускі — усе яны літвакі! На мове ідыш слова «літвак» гэтя яўрэй адсюль. А «літвінэр» — гэта літовец. Літвак гэта толькі яўрэй. «Вайсрус» — гэта беларус, але ёсць старое-старое слова на беларусаў: «райсэн». «Райсэн» гэта не расіянін, толькі беларус.

**— Русін?**

— Ну, да.

**Уршуля ШУБЗДА**

## Заблудаўская дэмаграфія

Зараз у Заблудаўскай гміне Беластоцкага павета пражывае 9 084 чалавекі ў 58 населеных пунктах. Найбольш у горадзе Заблудаве — 2406 асоб. Гміна займае плошчу ў 340 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насялення складае 27 чалавек на адзін квадратны кіламетр. У гміне 45 салэцтваў. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 62% усёй тэрыторыі гміны ды лясы — 31%.

А вось найбольшыя вёскі ў гміне: Дабжынёўка — 686 жыхароў, Кур'яны — 625, Рафалоўка — 506, Рыбалы і СКР Рыбалы — 405, Галіцкія — 277, Звяркі — 241, Заблудаў-Калёнія — 236, Крыніцкія — 235, Пратасы — 222, Скрыбічы — 211, Лубнікі — 188, Паўлы — 177, Фальваркі-Малыя — 168, Загрушаны — 161, Фальваркі-Тыльвіцкія і Камёнка — па 151, Беласточак і Рэпнікі — па 129, Фальваркі-Вялікія — 128, Кудрычы і Кухароўка — па 122, Навасады — 99, Пасынкі — 94, Козлікі — 83, Кавалёўцы — 78, Целушкі і Плоскія — па 77, Жукі — 73, Баброва — 70 і Астраўкі — 69.

Да сярэдніх вёсак належаць Гнецюкі — тут пражывае 66 чалавек, Давідавічы — 62, Малынка — 57, Сольнікі — 56, Сеські — 46, Ахрымовічы і Заціша — па 43, Заязерцы і Канюкі — па 40, Алексічы і Альшанка — па 39, Ляшкі — 37, Татараўцы — 31, Жыўкова і Каўпакі — па 30.

Самыя малыя пасяленні гэта Міневічы — 14 жыхароў, Сламянка — 13, Краснае — 12, Лук'яны — 10, Тэадорава — 6, Рудніца — 4 ды Багданец, Баравікі і Касцюкоўка — у кожным з іх па 1 жыхары.

На працягу паўтара года лік жыхароў Заблудаўскай гміны паменшаў на 75 чалавек. Паменшала жыхароў, між іншым, у Заблудаве — на 27, у Дабжынёўцы — на 18, у Баброве — на 15, у Рыбалах і СКР Рыбалы — на 13, у Рафалоўцы — на 8, у Канюках — на 5, у Давідавічах і Рэпніках — у кожнай на 4 ды ў Сеськах і Татараўцах — там і там на 3. Пабольшала жыхароў у Галіцкіх — на 26, у Кур'янах — на 24, у Лубніках, Рафалоўцы і ў Паўлах — на 5 у кожнай, у Фальварках-Вялікіх, Козліках і ў Крыніцкіх — там і там на 4, у Заблудаве-Калёніі, Кудрычах і ў Кухароўцы — там і там на 3 ды ў Загрушанах і ў Камёнцы — ва ўсіх іх на 2 жыхары.

Сёлета ў Заблудаўскай гміне «залатыя вяселлі» згуляе 21 пара. У мінулым годзе і сёлета ў горадзе і ў вёсках памерла 75 чалавек. У гміне кавалераў значна больш, чымсьці іх равесніц-дзяўчат, таксама значна больш удоў, чымсьці ўдаўцоў. Тут на 100 мужчын прыпадае столькі ж жанчын. Да найстарэйшых жыхароў у гміне належаць Леакадзія Давідовіч (ёй 105 гадоў) з Крыніцкіх і Браніслава Васілеўская (104 гады) з Заблудава.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## Будуць новыя маставыя

Адналенне вуліц у Гайнаўцы з'яўляецца прыярытэтнай справай. Улады горада дбаюць, каб вуліцы былі роўныя і прыгожыя. Цяпер з вялікім размахам ідуць працы на вуліцы Новаваршаўскай. Ужо да 19 ліпеня гэтага года на ёй паклалі новыя бардзюры і новы асфальт. Неўзабаве закончаць асфальтаванне вуліц Жаромскага, Вясковай і Сарняй. Зараз у другой дэкадзе ліпеня надвор'е спрыяе для такіх прац.

Сёлета будуць мадэрнізаваны вуліцы Яжэмбіновая, Таргові Завулак і Маламейская, а таксама частка вуліцы Мазуры. Да асфальтавання падрыхтаваны кароткія вулачкі Мядовая, Салодкая і Пчаліная ды Кручая, Скаўронка, Кукулкі і Сікоркі.

Ужо рыхтуюць тэхнічную дакументацыю на перабудову маставых на вуліцах Магноліевай, Язмінавай, Ляшчынавай, Сланечнікавай і Ураджайнай.

У Гайнаўцы таксама дбаюць, каб вуліцы мелі тратуары. Найбольш задаволеныя з іх гайнавяне, якія жывуць пры вуліцах Баторыя, Пілсудскага, Электрычнай, Ліпавай, 11 Лістапада, Паддольнай, Простай, Паркавай, Ракавецкага і Арміі Краёвай. (яц)



# Суседзі вырваныя з месца і душы

— Кожны творца тут гаворыць на іншай мове, але няма іншага спосабу супраць забыцця, як праз мастацтва, — адзначыла куратар выставы «Суседзі з'ехалі ў Трэблінку» Магдалена Гадлеўская-Сіверская.

Куды зніклі нашы суседзі, габрэі? Што ад іх засталося? Быццам бы цэлымі сем'ямі паехалі на канікулы... На выставе ў цэнтры імя Лазара-Людвіка Заменгофа ў Беластоку па вуліцы Варшаўскай, 19, ад 11 жніўня гісторыя габрэйскай абшчыны і польска-габрэйскіх адносін паказваецца на мове сучаснага мастацтва. Перад тэмай, перажытай унутрана і выяўленай па-мастацку, сталі мастакі рознага ўзросту і нацыянальнасці, у большасці родам з Падляшша: Эва Хацяноўская, Аляксандра Чарняўская, Гжэгаж Дамброўскі, Маргарыта Дмітрук, Павел Грэсь, Крыстына Пятроўская, Рафал Сідэрскі, Катажына Заблоцкая з вучнямі Мастацкага ліцэя, у тым ліку з Аляксандрай Рэшаць, Тамаш Вашчанюк і Януш Бадурскі — лекар, які захацеў у гэтым пытанні ўзяць голас як фатограф.



— «Суседзі з'ехалі ў Трэблінку» з'яўляецца першай выставай у Беластоку, якая мовай самага сучаснага мастацтва выяўляе матэрыяльныя сляды былой прысутнасці і цяперашняй адсутнасці габрэяў, і ставіць пытанне, што з гэтага вынікае, таксама для нас, тых, хто жыве на засыпаных кіркутах і праху іх дамоў, — сказала Магдалена Гадлеўска-Сіверская з Асацыяцыі культурнай адукацыі ВІДОК. — Выстава была падрыхтавана да 75-х угодкаў Ванзейскай канферэнцыі, на якой 15 вядомых палітычных дзеячаў Трэцяга Рэйха прынялі канчатковае «рашэнне» яўрэйскага пытання шляхам ліквідацыі 11 мільёнаў еўрапейскіх яўрэяў, у тым ліку 400 тысяч з Беластока. Былі тады складзены спісі, з якога ліку габрэяў павінна быць «ачышчана» кожная краіна. Сярод спіска згаданых краін была пазначана толькі адна асобная акруга — Бэцырк Беласток. Рашэнне фашысты ажыццявілі... Нашы мастакі, захоўваючы асобны аповед, стварылі шматслаёвы сюжэт, галоўным матывам з'яўляюцца дамы, як сведчанне пра жыццё былых габрэйскіх суседзяў. Ва ўсіх нас ёсць агульнае веданне, што яны тут жылі, працавалі тут, што была вайна і Халакост. Мы прывыклі да таго, што яны былі, і іх цяпер няма. Усё зрабіла ж вайна. Нас жа ж тады не было, і мы не адказныя за Халакост. У нашай калектыўнай свядомасці габрэі прысутнічаюць да Другой сусветнай вайны, а пасля — маўчанне. Знакавым на плакаце з'яўляецца дом па вуліцы Мазавецкай 31/1 у Беластоку. Тыя пакінутыя дамы, часта руіны, паўз ажыўленых вуліц і пасярод высозных блокаў. Такі быў лёс многіх габрэйскіх будынкаў. Горад не ведае, што з імі зрабіць. Зараз той дом з Мазавецкай стаў галоўным героем выставы. Каля такіх будынкаў мы праходзім кожны дзень. Мы прывыклі да таго, што палохаюць яны нас сваім знешнім выглядам, хаця калі б іх аднавіць, цешылі б нашы вочы... Мала людзей пытаецца аб іх былых жыхарах. Як правіла, мы проста не ведаем, што гэта развалiны дамоў, якія належалі габрэям, загінуўшым у Трэблінцы.



— Гэтая выстава паказвае, як шмат слядоў ад грамады габрэяў засталося ў Беластоку, — тлумачыў аўтар плаката Яцак Маліноўскі.

— Сучаснае мастацтва проста крычыць пра ўсе праблемы, якія мы маем сёння, і якраз мастак можа сказаць тое, што павінна быць выказана, — дадала Эва Хацяноўская.

У каталогу выставы Анэта Прымака-Анішк піша:

— У тутэйшым (беластоцкім) гета замкнулі — па розных крыніцах — 40-60 тысяч габрэяў. Я прыязджала сюды ў ліцэй у пачатку 1990-х гадоў (...). Кожны дзень мінала занядбаныя дамы па вуліцы Бэма і не прыходзіла мне ў галаву, што да вайны ў іх жылі габрэі. Праходзіла праз апустошаны базар, дзе некалькі гадоў таму мая мама купіла мне першыя джынсы; а толькі праз некалькі гадоў я даведалася, што тут былі габрэйскія халерычныя могілкі. Мінаю мёртвы пляц пры вуліцы Млыновай (былы пратэстанцкі могільнік, — гэтага, вядома, таксама не ведаю). Даходжу да парку на ўзгорку. Мне ён асабліва не падабаецца. Лепш пайсці напраcткі праз яго, каб дайсці да дома маёй цёці, якую наведваю. Абыходжу яго, наддаючы дарогі. Не ведаю, што гэта кіркут, што пад тонамі зямлі стаяць надмагіллі-мацэвы. (...) Калі шмат гадоў пазней размаўляю з людзьмі майго пакалення, чую адны і тыя ж гісторыі. Ніхто не гаварыў ім гэтага, а яны не пыталіся. (...) Прайшло 75 гадоў, а раны пасля габрэяў яшчэ не зажылі. Так і ў многіх гарадах Польшчы. А ў нас саміх? Што здарылася з той дзірай ад вырваных з нашага месца суседзяў?»

Фотамастак Павел Грэсь, родам з Гарадка, якому памяць пра габрэяў перадалі дзяды:

— Няма нашых мястэчак без гісторыі габрэяў. Таму я прысутнічаю на гэтай выставе. Магу падзяліцца гэтым з іншымі людзьмі, і паказаць тую пустэчу, якая застаецца да сёння, ад такой багатай культуры габрэяў, якія жылі сярод нас. Наш свет з імі быў багацейшым.

Доктар Кацярына Савіцкая-Мяжынская:

— Як на вернісажы ў сярэдзіне лета — было душна, з пункту гледжання кампаніі — вельмі міла, шмат знаёмых твараў. І ўсё ж... Мастакі здолелі дакрануцца ў кожным з нас да вельмі адчувальнага пункту ды давесці да таго, што мы пакінулі Цэнтр Заменгофа з адчуваннем адсутнасці і пустога месца ў прасторы і ў сэрцы. Я так адчула — тое вострае пачуццё адсутнасці, недахопу, нягледзячы на тое, што мы былі ў натоўпе ў цэнтры шумнага гарадскога жыцця ў час уік-энду. Дзякую мастакам, дзякую Магдалене Гадлеўскай-Сіверскай. Абавязкова паглядзіце выставу «Суседзі з'ехалі ў Трэблінку». Не магу дачакацца каталога.

Трэцяга верасня ў 18:30 у Цэнтры імя Л. Заменгофа адбудзецца дыскусійны форум і можна будзе атрымаць каталог выставы. Арганізатарамі выставы з'яўляюцца Асацыяцыя культурнай адукацыі ВІДОК, Беластоцкі культурны цэнтр (БОК). Выстава фінансавалася Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны і БОК. Праект рэалізуецца ў рамках фестывалю Усход культуры / Іншае вымярэнне.

(лук)

Фота Міры Лукшы

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў

працяг з 34 н-ра «Нівы»



Як у Гарадоцкай гміне справіліся са справай вяртання грунтоў экспрапрыяваных на план пабудовы Семяноўскага вадасховішча і канчаткова нерэалізаванага канала Нарва — Супрасль?

Яшчэ 27 сакавіка 1979 г. пералічаны былі ў спісе прозвішчы гаспадароў з вёскі Меляшкі (каля 6,5 км за Гарадком), частка зямель якіх была прадбачана да экспрапрыяцыі на гэтае інвестыцыйнае мерапрыемства. З гэтай вёскі, якая існуе больш за 500 гадоў, выводзяцца, між іншым, паэт-нашанівец «Каршун» Янук Дарашкевіч, продкі Лявона Тарасэвіча і Паўла Грэся... Свае ўчасткі велічынёй ад 0,0660 га да 0,25 га ў цане ад 145 зл. да 3300 злотых мелі аддаць дзяржаве Анатоль Ярмолік с. Аляксандра, Уладзімір Пятэльскі с. Антона з жонкай Нінай, Васіль Марцінчык с. Сцяпана з жонкай Барбарай, Як Карповіч с. Юльяна, Марыя Тарасэвіч д. Яна з мужам Мікалаем с. Аляксандра, Ян Рожка с. Міхала з жонкай Кацярынай, Мікалай Тарасэвіч с. Аляксандра з жонкай Верай, Павел Кастэнчык с. Яна з жонкай Надзеяй, Ян Дарашкевіч с. Мікалая з жонкай Галенай, Уладзімір Дарашкевіч с. Юльяна, Юльян Чэмель с. Нікіфара, Анатоль Чэмель с. Мікалая, Уладзімір Ярмолік с. Восіпа, далучаны яшчэ Міхал Грыка с. Міхала з Падазеран. Валянцін Дарашкевіч сын Канстанціна з жонкай Валянцінай ды Аляксей Шусцік с. Міхала з жонкай Надзеяй адразу патрабавалі ў Ваяводскім бюро геадэзіі і сельскагаспадарчых тэрыторый у Беластоку замены сваіх грунтоў на іншыя ўчасткі. Вядома, усё мусіла быць праверана, ці ўчасткі не запазычаныя ў падатках і ў банку, ці правільныя іх вырысы на картах і фінансавы аперат-расцэнка. А яшчэ 24 жніўня 1982 г. да грамадзяніна Начальніка гміны ў Гарадку звярнуўся рэферэнт Дар'юш Кулеша з Управы сельскагаспадарчых інвестыцый з заявай з патрабаваннем экспрапрыяцыі грунтоў збунтаваных гаспадароў **Аляксея Шусціка** сына Міхала (участак № 41/2 паверхняй 0,0730 га і ўчастка 980/2 паверхняй 0,0848 га) і **Мікалая Ціванюка** с. Мікалая з жонкай Кацярынай, якія не хацелі аддаваць сваіх лугоў чацвёртага, пятага і шостага класаў. Яны былі ў той момант неабходныя на пабудову канала Нарва — Супрасль, на падставе арт. 2 уст. 1 і арт. 3 уст. 1 закона ад 12.03.1958 г., згодна рашэнню Беластоцкага ваяводы № AS.42.II/III/75, зацвярджаючым той план пабудовы. Раней управа выступіла да іх, каб дабравольна адступілі грунты. А яны не схацелі. Таму «ўняскуецца», каб тыя грунты экспрапрыяваць ім сілай. Бо А. Шусцік не выказаў згоды, а патрабаваў абмену грунту на іншы, а М. Ціванюк патрабаваў большай кампенсацыі. «Заява тутэйшай Управы наконт замены грунтоў грамадзяніну А. Шусціку была афармлена адмоўна (ліст Ваяводскага бюро геадэзіі і сельскіх тэрыторый у Гайнаўцы № WBG.OR.Sc. 473/259/81 ад дня 6.XI.1982 г.). У сувязі з вышэйсказаным ВУСІ ў Беластоку прымае гэтыя пералічаныя грунты, неабходныя для рэалізацыі пабудовы вадасховішча Семяноўка. Кошт пералічаных грунтоў агульнай паверхні 0,1918 га складае 3 266 зл.».

Больш хіба каштавала папера, маркі і час людзей, якія займаліся тлумачэннем патрэбы і неабходнасці цудоўнага замыслу ашчасліўлення грамадзян агульнай айчыны ПНР... Прыгадаю, што пасля пару тыдняў, калі набыло законную сілу рашэнне, былі выплачаны грошы з БГЖ (Банк харчовай гаспадаркі) — недзе ў канцы жніўня 1982 г. А канчаткова тыя грунты меляшкоўскіх падгарадоцкіх сялян, і тых што з уздыхам далі згоду на экспрапрыяванне іхніх лугоў над Супраслю, як і, напрыклад, падміхалоўскіх Кухмоў, аказаліся «лішнімі» для рэалізацыі магутнага плана — былі вернуты ў распараджэнне Ваяводскай управы сельскіх інвестыцый, на падставе параграфа 4 пункт 4 і распараджэння Рады Міністраў ад дня 22.11.1968 г. пра перадачы сельскіх нерухомасцей і некаторых іншых нерухомасцей на тэрыторыі грамады паміж адзінкамі камунальнай гаспадаркі.

Кшыштаф Валевіч з Павятовага староства ў Беластоку, які цяпер адказвае за вяртанне нерухомасцей, якія былі экспрапрыяваныя, перагледзеўшы дакументы і нумары ўчасткаў, якія маюць амаль сорак гадоў, сцвердзіў, што тая нумарацыя ўчасткаў поўнасцю памянялася, грунты былі спалучаны або прададзеныя, а ў большасці ўласнікі, тыя пералічаныя ў спісках, адышлі ў лепшы свет. Каб пераглядзець «шлях» тых нерухомасцей, трэба было б дэлегаваць спецыяльнага працаўніка старостава, які мусіў бы доўга корпацца ў паперах, і невядома да чаго дайшоў бы. І ці варта для гэтых дробак гектараў з гэтым важдацца?..

Мабыць таму і ў Нараўчанскай гміне, якая стала ўласніцай экспрапрыяваных «лішніх» грунтоў, праблема з тым, каб знайсці спадчыннікаў былой экспрапрыяванай маёмасці, іх месца пражывання і адрасы, каб адправіць інфармацыю, што зямля іх бацькоў прадаецца ці робіцца на ёй нешта іншае.

Андрэй Пятэльскі з Беластока, адзін са спадчыннікаў меляшкоўцаў Ніны і Уладзіміра, унук Антона:

— Досыць складаная сітуацыя, але з якой у Гарадоцкай гміне справіліся. Лепш справіліся з зямлёй апошніх меляшкоўцаў, чым з лугамі Ціванюка і Шусціка, пра якія вырашалі яшчэ ў жніўні 1982 года і не хацелі іх замяніць на іншыя. Бо з ліпеня 1982 года пачалася ліквідацыя меляшкоўскай цэраспалосіцы, і так зрабілі, што тыя кавалачкі былі далучаны да цэласці гаспадарскіх грунтоў. Вядома, што тады ўсё апынулася ў іншым месцы. Аказалася, што там у нас было 0,46 гектара. Але цяпер гэтай зямлі, ва ўрочышчы Рабінаўка, у нас няма, бо забралі яе пад запаведнік Рабінаўка, дзе гняздуюць багонныя і іншыя птушкі. Туды ніхто з тутэйшых людзей не мае права ўваходу. Запаведнік Рабінаўка гэта адзін з чатырох запаведнікаў на тэрыторыі Гарадочны і Супрасльшчыны — апрача Цілічанскага лесу ў Князынскай пушчы на тэрыторыі Супрасльскай і Гарадоцкай гмін, Каматоўшчыны — з барэальнай багоннай хваінай і вольна жывучымі зубрамі, з возерам Вейкі, над якім многа цікавых звяроў і растуць расіца, архідэя зязюльчыны слёзы, архідэя крывавая, бяроза нізкая. А ў Рабінаўцы бытуюць «прадстаўнікі гняздуючай авіяфаўны» — цецярук, дупель і дзяркач... Людзям туды кроку не ступіць, нават навукоўцы мусяць толькі неінвазійна назіраць над прыродай. А тудою меў ісці канал Нарва — Супрасль.

Пазыўныя «Рабінаўка» меў аматар-радыйшчык і фатограф Міхал Лукша з Буд, родам з Цісоўкі. Ён жа і законны жыццё ў Аседлі Бандары. Яго здымкі публікаваліся побач маіх тэкстаў. У яго зборах захаваная гісторыя гэтых зямель і людзей, якіх выгналі з абжытых каляін, па якіх хадзілі іх продкі. Як плыла Нарва, яе падрэчкі, як Супрасль... Плынь беларускіх лёсаў. І памяць.

*Далей сочыць ваду прадвечная крыніца.*
*Абступае высокі густы бор кругагляд.*
*Тысячы сонцаў захінаюць*
*зморшчаныя пальцы.*

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

**PS.** Дзякую за давер у карыстанні з архіўных матэрыялаў **Уладзіславу Бірыцкаму**.

## „Усе дзеці аднолькавыя. Не важна адкуль ты і дзе ты жывеш"

**(Аб транспамежнай летняй акадэміі ў Сакалове-Падляшскім)**

З 9 па 14 ліпеня ў Сакалове-Падляшскім ладзілася летняя акадэмія для дзяцей з Польшчы, Беларусі і Украіны, арганізаваная ў межах праграмы транспамежнага супрацоўніцтва. Адбор да ўдзелу ў акадэміі ажыццяўляўся праз конкурс для школ „Захаваем культурную спадчыну разам!", які праходзіў з 17 сакавіка па 11 мая. У выніку ў Сакалоў былі запрошаны 10 дзяцей з Польшчы, 12 з Беларусі і 24 з Украіны. З беларускага боку — гэта 9-14 гадовыя школьнікі з сярэдняй школы № 8 г. Гродна, Малечскага навучальна-педагагічнага комплексу яслі-сад-сярэдняя школа (Бярозаўскі раён Брэсцкай вобласці) і Пагарэльцаўская дзяржаўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа (Нясвіжскі раён Мінскай вобласці); з украінскага боку — дзеці з Луганскай вобласці, горада Роўна і сяла Дубечна Валынскай вобласці.

Удзельнікі размясціліся ў Доме міласэрнасці таварыства „Карытас". 10 ліпеня прайшло ўрачыстае адкрыццё акадэміі ў прысутнасці біскупа Драгічынскай дыяцэзіі Антонія Дыдыча, віцэ-маршалка сената Марыі Коц і прадстаўнікоў Тэхнічнага сакратарыята, які займаецца фінансаваннем побыту моладзі ў Сакалове.

Для дзяцей былі арганізаваныя заняткі па дэкупажу, ганчарству, танцам, разнастайныя імпрэзы і вандроўкі. Пажарнікі з Сакалова пазнаёмілі школьнікаў са сваёй часткай і абсталяваннем, якое яны выкарыстоўваюць у надзвычайных сітуацыях, дапамагаючы людзям. Удзельнікі акадэміі таксама наведалі Варшаву, дзе для іх была праведзена экскурсія па Старым горадзе і польскім нацыянальным стадыёне. І пабывалі ў Цеханоўцы ў сельскагаспадарчым музеі імя Крыштафа Клюка і батанічным садзе ў Карыцінах, дзе для дзяцей правялі майстар-клас па стварэнні травяной гарбаты.

У якасці заданняў дзеці рыхтавалі дзве прэзентацыі — пра свае краіны і нацыянальную кухню. Гэта былі прадстаўленні, у якіх за 10 хвілін неабходна было распавесці самыя важныя, з пункту погляду моладзі, рэчы пра сваю Радзіму. Прадстаўленні народных страў адбываліся перад вогнішчам. Так, палякі частавалі ўдзельнікаў хлебам са смальцам і бабкай, да якой беларусы замест кетчупу папрасілі смятаны, паколькі бабка таксама і беларуская народная страва.

У цэлым за шэсць дзён супрацоўніцтва дзеці адчулі, наколькі, нягледзячы на межы, яны падобныя. Як адзначыў настаўнік з Роўна Сяргей Тымашчук: „Усе дзеці аднолькавыя. Не важна адкуль ты і дзе ты жывеш".

Даведка: асноўнай мэтаю праграмы „Польшча-Беларусь-Украіна", распрацаванай на 2014-2020 гады, з'яўляецца падтрымка транспамежных працэсаў развіцця, якія ажыццяўляюцца праз некамерцыйныя праекты. Яе прыярытэты: павышэнне канкурэнтаздольнасці памежных тэрыторый, павышэнне якасці жыцця, інстытуцыянальнае супрацоўніцтва і падтрымка мясцовых ініцыятываў. Агульны бюджэт праграмы: 202,9 млн. еўра.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

## Шыльда вісіць і вісіць...

На скрыжаванні вуліц Гайнаўскай і Агародавай у Нараўцы Гайнаўскага павета стаіць вялікі аднапавярховы драўляны дом з нумарам 48. На вугле яго знаходзіцца шыльда з надпісам „ART. SPOŻYWCZE". Яна вісела, як я памятаю, у 2015 годзе і вісіць цяпер. І справа ў тым, што ў гэтым будынку няма ніякай спажывецкай крамы. У другім канцы будынка ёсць кветкавы магазін Івоны Езёрэк. Не прыдбаць тут ніякіх прадуктаў харчавання, дык навошта вісіць тая шыльда. Навошта зводзіць пакупнікоў? Не ўсім прыезджым у Нараўку вядома, што шыльда толькі маніць. Хтосьці ёсць жа ўласнікам гэтага дома. Можа войт Нараўчанскай гміны гэтым зоймецца?

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


Аўтары комікса: Магда Бяляўская, Кандрат Косцін, Віктар Лінк

# Комікс – свет Пашы!

Здароў! Мяне завуць Паша. Пакажу Вам мой свет.

Гэта мая школа. Класная, праўда?

Гэта мае бацькі. Я іх люблю!

Гэта мая найлепшая сяброўка.

А гэта мой пакой.

Гэта мой сабака Рэксік.

Гэта, пакуль, усё з майго боку!

# Беларускія стравы на кожны дзень





Беларусы любяць есці сваe народны стравы. Але гэта не дзіўна, бо яны вельмі смачныя. Жыхары Беларусі любяць з'есці кішку, бабку, зацірку ці кулеш. Для мяне самая лепшая страва — зацірка з малаком.

Беларуская кухня мае шматвяковую гісторыю. Нашы продкі ад вякоў займаліся земляробствам і гэта мела ўплыў на тое, што елі яны кожны дзень. Хаця ў навакольных лясах было шмат звяроў, як мяркуюць некаторыя гісторыкі, беларусы да Х стагоддзя былі вегетарыянцамі.

На тэму яды стварылі многа прыказак і прымавак.

Вось некаторыя з іх:

— Хто не дбае, той не мае.

— Гаспадарку весці — не кашу есці.

— Запас есці не просіць.

— У дзіравым вядры не носяць вады.

Прыведзеныя прымаўкі вучаць нас, што трэба шанаваць працу людзей, дзякуючы якім маем што есці.

**Мікалай ЗДРАЙКОЎСКІ,**
«***Васілёк***», *вучань беластоцкай «чацвёркі».*

Яўген КРУПЕНКА

## Лета

**Цёплае, прыветнае**
**Возера летняе,**
**Чыстая вадзіца,**
**Хочацца напіцца.**
**Сонца палілося,**
**Высока ўзнялося,**
**У спякотны поўдзень**
**Лось сюды прыходзіць,**
**Мы не забываем,**
**Тут адпачываем.**
**А каб не змялела**
**Возера лясное,**
**Пояць яго хмары**
**Вадой дажджавою.**

Клаўдзія Нікaнчук,
«(не) Тоўстая газета»,
КШ у Нарве

## Коцік-псоцік

— Коцік-коцік, мяў-мяў-мяў,
дзе ты ножкі свае стаптаў?
— Я на рэчцы рыбу лавіў,
але над рэчкай рыбы не ўкруціў.

— Коцік-коцік, мяў-мяў-мяў,
дзе ты лапкі свае схаваў?
— Я над рэчкай рыбу лавіў,
але над рэчкай рыбы не ўкруціў.

— Коцік-коцік, мяў-мяў-мяў,
дзе ж ты носік свой замурзаў?
— Я над рэчкай рыбу лавіў,
але над рэчкай рыбы не ўкруціў.

— Ах ты, коцік, дурненькі!
Цябе над рэчкай не было,
рыбы ты не лавіў!
Коцік-коцік, мяў-мяў-мяў
Ці ўсіх разам ашукаў.

## УВАГА КОНКУРС! № 35-17

**Спальнік, ежу, бохан хлеба —**
**Я ўмяшчаю ўсё, што трэба.**
**А сам еду на спіне.**
**Хто я, ведаеш ці не?**
**Р.....**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 3 верасня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадку № 32-17: ракета. Узнагароду, CD з беларускай музыкай, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 35-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 31-17:**
Каса, дзіця, рукзак, ручнік, ар, Іван, фа, газ, гук, ноч, саха. Фон, ружа, Случ, кніга, дзіва, заказ, лік, га, ух, сяброўка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Гаць, Дам'ян Карнілюк** і **Магдалена Якубюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Rosa | | |
| Peruka | | Mama | Korrida | | Anoda | Jak / Skarb | |
| Piołun | As / Parka | | Kartki papieru | | | | |
| Pomidor | | | | | | Rzepak | |
| | | | | | | | |
| Rozsada | | | | | | | |
| Maszynista | | | | | | | |
| | | | | | | | |



# Белфэст у Лядах

**Ляды** — невялікая вёска ў Чыжоўскай гміне, якая славілася на ўсю Гайнаўшчыну і Бельшчыну крыніцай з гаючай вадою, што выцякала каля сяла. Аб гэтым сведчаць драўляныя крыжы, якія паломнікі ставілі каля крыніцы, драўляная часоўня ў гонар мучанікаў братоў Макавеяў і іх маці Саламаніі побач і аповеды старажылаў Лядаў і суседняга Курашава. Яны яшчэ і цяпер прыязджаюць за вадой падчас святкавання ў гонар нябесных заступнікаў часоўні. 12 жніўня, на два дні перад святам, якое дае пачатак Спасаўскаму посту, каля вёскі Ляды і вадаёма на рэчцы Локніцы Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, войт Чыжоўскай гміны і Гмінны асяродак культуры ў Чыжах арганізавалі беларускі фэст з цыкла «І тут жывуць людзі».

Белфэст для жыхароў Чыжоўскай і суседніх гмін быў добрай нагодай наведаць святое месца каля Лядаў, якія ў мінулым былі вядомыя таксама з-за фальварка роду Браніцкіх.

— Фальварак Браніцкіх у Лядах быў распалажаны каля дарогі ў Лянева. У ім нават затрымаўся і начаваў апошні кароль Польшчы Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. У фальварку выраблялі, між іншым, чырвоную цэглу для будовы палаца Браніцкіх у Беластоку. Каля фальварка ўзнікла вёска Ляды. Зараз у ёй прапісаных каля 60 чалавек, з ліку якіх пражывае тут пастаянна чалавек 30-40, перш за ўсё пенсіянеры, бо малодшыя выехалі за працай. Будучыня Лядаў і іншых такога роду вёсак — гэта яшчэ меншая колькасць жыхароў. Цяпер палі такой вёскі як Ляды ў змозе абрабляць некалькі сялян, — сказаў войт Чыжоўскай гміны **Юры Васілюк**. — Зараз у Лядах толькі адзін буйны земляроб і заадно солтыс вёскі — **Пётр Заброцкі**. Менавіта ён выступіў з ініцыятывай сарганізаваць у Лядах беларускі фэст з цыкла «І тут жывуць людзі» і я падтрымаў ягоную ініцыятыву. Я ўдзячны яму, што запрапанаваў сарганізаваць фэст і стаянку для машын на сваім лузе, які акуратна выкасіў і разам з аднавяскоўцамі працаваў пры ладжанні фэсту.

Жыхары Лядаў не памятаюць, калі ў іх вёсцы адбыўся беларускі фэст, ці іншае музычнае мерапрыемства і таму белфэст пад лозунгам «І тут жывуць людзі» быў для іх вялікім святам, на якое прыбыло многа людзей усіх узростаў.

— Сёння сюды прыйшлі жыхары Лядаў паслухаць нашы песні. Мы яшчэ гаворым на беларускай мове, так як гаварылі нашы бацькі і дзяды. Цікава нам наша культура. У вёсцы ў двух сем'ях ёсць толькі трое дзетак. Пенсіянеры ў Лядах састаўляюць пад 70% насельніцтва вёскі. Я — адзіны гаспадар у Лядах, апрацоўваю 50 гектараў зямлі, гадую 16 цялят і адну карову, каб мець свежае малако для сям'і. Сышоў я з гадоўлі кароў, бо апрача гаспадаркі працую брыгадзірам у суполцы «Пронар» у Нарве. Мая жонка таксама працуе на пасадзе. Калі я быў вучнем, то мы, хлопцаў дваццаць з Лядаў і многія прыезджыя, купаліся ў вадаёме на Локніцы і было вельмі весела. Быў ён акуратна ачышчаны ў палове мінулага дзесяцігоддзя, але ізноў занесла яго мулам і няма ўмоў для плавання, але летняй парою адчуваецца ахалоду ад вады, — сказаў солтыс Лядаў Пётр Заброцкі, якога панадворак і гаспадарка знаходзяцца на другім баку Локніцы, гледзячы ад месца, дзе праходзіў фэст.

Зараз у частцы вёскі, распалажанай ад скрыжавання дарог у напрамку Лянева, людзі яшчэ жывуць пастаянна. Аднак налева ад скрыжавання, у напрамку Курашава, дамы пустуюць. Толькі падчас фэсту яны ажылі, бо прыехалі сюды выхадцы з вёскі, якія жывуць у гарадах. Тры дамы ў Лядах для адпачынкавых мэт купілі прыезджыя.

Калектыў «Незабудкі» з суседняга Курашава ўдала выступіў падчас белфэсту, а яго кіраўнік Ніна Грыгарук старалася развесяліць публіку сваімі жартоўнымі аповедамі.

Хаця крыніца з гаючай вадой і часоўня распалажаны непадалёк ад Лядаў, то знаходзяцца яны ўжо на палях вёскі Курашава і багаслужбу ў гонар мучанікаў братоў Макавеяў і іх маці Саламаніі ўзначальвае настаяцель прыхода ў Курашаве. Аднак тады каля калодзежа, збудаванага над крыніцай, моляцца таксама жыхары Лядаў і іншых вёсак Чыжоўскай гміны. Кацярына Заброцкая з Лядаў заявіла, што на асвячэнне вады ў калодзежы прыязджаюць гараджане — выхадцы з навакольных вёсак.

— Крыніца з незвычайнай вадой, якая выцякае каля Лядаў, была адкрыта некалькі соцень гадоў таму назад, калі ў наваколлі павысыхала вада ў калодзежах. Спачатку ў крыніцы паявілася забруджаная вада, паколькі ў яе наваколлі тарфяністая зямля, а пасля стала чыстай. Калі людзі сталі піць ваду з крыніцы аказалася, што яна вылечвае хваробы. За вадой сталі з малітвай прыходзіць паломнікі і ставіць каля крыніцы драўляныя крыжы (некаторыя з іх захаваліся па сённяшні час — А. М.). Невідушчы мужчына з Лядаў, Фёдар, разам з іншымі людзьмі збудавалі часоўню непадалёк ад крыніцы. Праз два дні ў капліцы адбудуцца святкаванні ў гонар святых братоў Макавеяў, — распавяла **Ніна Грыгарук** з Курашава. Адзначыла яна важную ролю фэсту, паколькі калектывам Чыжоўскай гміны ствараецца магчымасць запрэзентавацца перад сваёй публікай. Удзельнікам фэсту цікавыя таксама выступленні калектываў з-па-за гміны.

— Ідэя ладзіць беларускія фэсты з цыкла «І тут жывуць людзі» апраўдалася. Мы даходзім з нашымі песнямі ў такія вёскі, дзе людзі нават не памятаюць падобных музычных мерапрыемстваў. Жыхары невялікіх вёсак дзякуюць нам за арганізацыю белфэстаў. Сёння мы арганізуем ужо 55-ты беларускі фэст у дзевяцігадовай гісторыі цыкла «І тут жывуць людзі». Фэст у Лядах — чацвёртае мерапрыемства ў гэтым годзе. Арганізавалі мы такія фэсты ўжо ў Чыжыках, Масеве і Ставішчах, а плануем у Істоку і Нарве, — распавёў дырэктар Гайнаўскага белмузея **Тамаш Ціханюк**.

Мерапрыемства добра вяла Магда Гаўрылюк, якая выступаць перад публікай вучылася ў белмузейнай тэатральнай групе. У краме Гайнаўскага белмузея можна было купіць беларускую літаратуру і рукадзелле, таксама з цікавай вышыўкай. Была таксама палатка ад Чыжоўскай гміны, у якой Яўгенія Кандрацюк з Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі ў Чыжах прамавала праект супрацьдзеяння злачыннасці ў сям'і. Дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк выказаў задаволенасць ад супрацоўніцтва з Гайнаўскім белмузеем, дзякуючы якому ў Чыжоўскай гміне арганізуюцца беларускія мерапрыемствы з цыкла «І тут жывуць людзі», з якімі беларуская песня і культура даходзяць у невялікія вёскі. У Лядах перад публікай выступілі калектыў «Верасы» з Чыжоўскай гміны, вакальны калектыў з Мора, якому акампанемент састаўляе інструктар Юра Ганевіч з Гродна, салісткі Марціна Белавежац, Наталля Селявонюк і Іза Карчэўская з вакальнай групы Комплексу школ у Чыжах і, канешне, калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў.

— Тут усё сёння спрыяе выступоўцам: сонца, ветрык і публіка. Я ехаў з Гродна на фэст больш за дванаццаць гадзін, але рады, што даехаў і выступіў. Мы, «Чыжавяне», спяваем беларускія народныя песні ў апрацоўцы і эстрадныя беларускія творы, а песень на іншых мовах у нас нямнога, што пачула сёння публіка, — заявіў музычны кіраўнік «Чыжавян» **Юра Ганевіч**.




■ Калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў

Ніна Далінская з калектыву з вёскі Мора дабавіла, што дзякуючы беларускім фэстам самадзейнікі могуць запрэзентавацца перад знаёмымі і большай публікай. Нядаўна было наладжана музычнае мерапрыемства «На мяжы», паміж Морам і Крывятычамі. У Чыжоўскай гміне была арганізавана «Купалінка» ў Ляневе, а восенню будуць ладзіцца Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам у Чыжах і Кленіках. Войт Юры Васілюк заявіў, што не ўдалося атрымаць дастатковых сродкаў для наладжання ў гэтым годзе археалагічнага фэсту на гарадзішчы каля Збуча, але спадзяецца на аднаўленне гэтай імпрэзы ў наступным годзе. Цікава выступілі і весялілі публіку, сабраную каля Лядаў, калектывы з-па-за Чыжоўскай гміны: «AXEL» з Нарвы, «RETRO BEATS» з Гайнаўкі, «Арт-Пронар» з Нарвы, Адам Красько з Пасечнік, вядомы з праграмы Польскага тэлебачання «Гаспадар шукае жонку», Данель Сакоўскі, які зараз жыве ў Арэшкаве і «Давід Шымчук Бэнд» з Гайнаўкі.

— Калектыў «Давід Шымчук Бэнд» дзейнічае ўжо два гады ў такім самым складзе. Мы спяваем перш за ўсё беларускія песні. Нядаўна выдалі мы кампакт-дыск «Чырвона каліна», на якім запісаны таксама шлягеры на іншых славянскіх мовах, — заявіў кіраўнік калектыву **Давід Шымчук** з Гайнаўкі.

Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк сказаў, што ўдалося яму наладзіць пастаяннае супрацоўніцтва з беларускімі вакальна-інструментальнымі калектывамі Гайнаўшчыны і калі тыя незанятыя, то выступаюць падчас белмузейных беларускіх музычных мерапрыемстваў.

— Тут асаблівая атмасфера і на лузе, каля рэчкі, мы з захапленнем слухаем нашы беларускія песні. Я з асалодай услухоўваюся ў іх словы і музыку. Я рада, што на сцэне выступае многа маладых асоб, што сярод іх ёсць таксама выпускнікі нашай школы, напрыклад удзельнікі калектыву «Давід Шымчук Бэнд», — заявіла настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ № 3 у Гайнаўцы **Людміла Грыгарук**.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Плаванне першага сорту

Шмат гадоў таму хадзіла за мною думка звалачыцца ва ўрочышча Баравіска, што за Бельскам. Тая думка хадзіла аж сходзілася і паволі я стаў пра Баравіска забываць. Але вось нечакана нагода сталася — прынёс яе царкоўны каляндар: каплічка на Баравісках даручана заступніцтву святога Панцеляймона...

Нябесны арэапаг, паводле папулярнага ўяўлення, запоўнены святымі, якія займаюцца тымі ж самымі справамі, што і звычайныя святары — значыць хадайнічаюць яны ў вышэйшых эшалонах за інтарэсамі тых, хто да іх звяртаецца за малітоўнай дапамогай; быццам лабіравальнікі ў парламенце. Найчасцей хадайнічаюць яны за здароўем зямных грэшнікаў. Адным з іх і святы Панцеляймон. Інтэрнетны рэсурс: „Великомученик Пантелеимон почитается в Православной Церкви как грозный святой, покровитель воинов. Эта сторона почитания раскрывает его первое имя Пантолеон, что значит *лев во всем*. Второе имя, данное ему при Крещении, — Пантелеимон, то есть *всемилостивый*, раскрывается из почитания великомученика как целителя”.

Каталіцкая энцыклапедыя: „Pantaleon, męczennik, patron lekarzy, pielęgniarek i ludzi samotnych, chorych na gruźlicę i bóle głowy oraz hodowców bydła; we Włoszech przypisuje mu się cuda związane z grami liczbowymi. Pantaleon czczony jest na Zachodzie, gdzie po licznych cudach dokonanych za jego wstawiennictwem w czasie epidemii dżumy w XIV w. uznano go za jednego z czternastu wspomożycieli; kult Pantaleona jako męczennika i lekarza rozpowszechniony jest również na Wschodzie. Relikwie Pantaleona znajdują się w Bari, Kolonii, Konstantynopolu, Lyonie, Neapolu, Paryżu, Ravello, Rzymie, Wenecji oraz na górze Athos w poświęconym Pantaleonowi monasterze”. Іншы рэсурс: „Jest to patron lekarzy i mamek, chroni od chorób, jest też popularnym patronem bydła i jednym z auksyliatorów (świętych ratujących w ciężkiej potrzebie)...”.

Кім жа ж тыя ўспамагальнікі? Тая ж самая энцыклапедыя: „Czternastu wspomożycieli, grupa świętych, którym przypisuje się szczególny patronat i skuteczność w niesieniu pomocy w różnych potrzebach. Należą do nich Akacjusz — patron w prześladowaniach i trwodze przed śmiercią, Barbara — patronka wojska, flisaków, górników i hutników oraz w niebezpieczeństwach pożaru i burzy, Błażej — patron w chorobach gardła, zębów, w krwotokach, Cyriak — patron w pokusach i opętaniu, Dionizy — patron w bólach głowy, Erazm — patron w chorobach wewnętrznych, Eustachy — patron leśniczych i myśliwych, Idzi — patron macierzyństwa, pasterzy, zabłąkanych, dobrej spowiedzi, Jerzy — patron żołnierzy oraz w chorobach skóry, trądu oraz w czasie epidemii, Katarzyna — patronka filozofów i teologów, Krzysztof — patron w podróżach, powodzi i w braku pogody, Małgorzata — patronka kobiet brzemiennych, Pantaleon — patron w bólach głowy oraz w innych chorobach ludzi, a także zwierząt domowych, Wit — patron głuchoniemych, chorych nerwowo, epileptyków”.

Баравіска гэта ўрочышча за Ягуштовам, таму паломнічаю спярша менавіта гэтай вёскай. Перад школай жанчына з мужчынам ладзяць уезд на школьную пляцоўку; пытаю дазволу зайсці ў бок школы — запрашаюць. Перад школай стэнд з кароткай гісторыяй вёскі; крыху вытрымак: „Пасяленне на тэрыторыі зямель вёскі Аўгустова вядзецца з раннесярэднявечных часоў. Сведчаць пра гэта курганы, якія тут называюць ссыпкамі. Першапачатковы людзі пражывалі ў невялікіх паселішчах, якіх назовы маглі быць падобнымі да названняў некаторых урочышчаў. У цяперашнім размяшчэнні вёска была заснавана ў першай палавіне XVI ст., калі на Падляшшы праводзілі валочную памеру. Следам гэтай вялікай камасацыі зямель гаспадаркі з раскінутых паселішчаў збіралі ўздоўж тракту Бельск — Браньск...”. Мова тут пра колішні тракт, які вёў церaз Стрыкі і Малешы; далей: „Аўгустова, разам з пяццю іншымі вёскамі, уваходзіла ў састаў мейскай акругі...”. Апошні сказ уносіць рахунковую загваздку; губернскі даведнік з 1843 года так інфармаваў: „Нынѣ вь Бельске жителей 1,564, то-есть мущинь 796 и женщинь 768. Домовь 312, изь нихь 10 каменныхь. Фабрикь и заводовь неть. Лавокь 21. Городу принадлежать 7 деревень, называемыя: Августово, Стрики, Шасталы,




Видово, Парцево, Спички и Пасечники; оне утверждены за немь привиллегіею Короля Александра вь 1499 году; нынѣ состоить вь нихь 1,294 ревижскія души. Благотворительное заведеніе вь городе 1. Училище также 1, Приходское”. Магчыма, што нейкі час Пасечнікі ўваходзілі ў састаў „замейскай” акругі, а можа ў адным з тэкстаў апынулася звычайная чалавечая рахунковая памылка...

Выведаўшы ў школьных гаспадароў дарогу ў Баравіска, шагаю далей бестурботна гэтай доўгай-доўгай вёскай. Раптам пачулася мне бухатанне вады з паўночнага боку вуліцы. Там за сеткай басейн, мабыць супрацьпажарны, а ў ім энергічна паплыў мужчына; на агароджы вадаёма таблічка з забаронай купацца... Вось гэты эпізод з ігнараваннем забароны паказаўся мне важнай нашай цывілізацыйнай даведкай...

Агульна гаворыцца, што мы пражываем на памежжы Усходу з Захадам, на культурным мішмашы, дзе вытокі адной культурнай прасторы выводзяцца з Рыма, а другой з візантыйскага Царагграда. Але мне так пацікy здаецца, што тыя вытокі крыху іншыя і сягаюць у атавістычную глыбіню, у наш значна даўнейшы даабарыгенны тут час, у эпоху гунаў, сарматаў, скіфаў і ім падобных нашых продкаў. У эпоху, калі не было тут пісанага слова, не было пісаных законаў, а крыніцай заканадаўства былі вусныя загады. Вось прыклад гэтаму з інтэрнэту: „На территории Московского Кремля в 1600 году была построена колокольня *Иван Великий*, кстати, самая высокая постройка на Руси до начала 18 века. В честь колокольни назвали и площадь, находившуюся перед ней, Ивановской. На этой площади были расположены основные государственные учреждения Руси — приказы, аналог нашим министерствам. Всю информацию люди узнавали от глашатаев (радио и газет в то время не было), которые зычным громким голосом объявляли царские указы и важные постановления в людных местах. Таким местом в столице была Ивановская площадь. Вот и приходилось глашатаю кричать во все горло, то есть *во всю ивановскую*, чтобы новость услышало как можно больше народа. А еще на этой площади за лихоимство и взяточничество наказывали дьяков, которых били розгами и кнутами. И орали они бедные *во всю ивановскую*”.

Былі гэта вельмі канкрэтныя законы, акустычныя, не тое што сённяшнія тамы ўсялякіх пісаных прававых нормаў рымскага выводу, якія выходзяць па-за рамкі прыроднага чалавечага абсягу. Таму мясцовы чалавек, не ахопліваючы іх, не чытае іх і ігнаруе. Ён, гэты тутэйшы навакольны чалавек, як мне пачынае здавацца, хацеў бы, каб крыніцай заканадаўства былі простыя вусныя загады, вельмі канкрэтныя, нават па тэлефоне. І насустрач гэтай празе — так мне далей здаецца — рашуча схіляюцца нашы народныя лідары. Пісаныя законы, у тым ліку і ўсялякія канстытуцыі, у нас малаістотныя; так як і ўсялякія закалоты вакол тых законаў. Пісаныя дзяржаўныя канстытуцыі здаюцца быць у нас, на нашым намінальным Усхода-Захадзе, адно фігавымі лісткамі, прыкрываючымі перад пастаянна гіджаным нам Захадам нашу тутэйшую ад таго Захаду адметнасць. Здараюцца ў нас і адукаванюгі, якім здаецца, што напісанага пяром, не высячэш тапаром, але яны складаюць другі сорт. А першы сорт аддае перавагу не трапляючай у вока пісанай абстракцыі, але трапляючаму ў вуха канкрэту. Ці ж якая карціна можа задушэўна раўняцца палымянаму казанню або „Чарцы на пасашок” ці „Гэй, саколам”?.. Плаванне па ягуштоўскім вадаёме гэта красамоўная падтрымка нашай цяперашняй прававой палітыкі; пад нашасцю я маю на думцы і Trójmorze, і Międzymorze, ды нават цэлы Міжакіяністан...


На Баравісках

Іду лясной дарогай у напрамку Баравіскаў. У тым жа напрамку дастойна кіруюцца легкавушкі, зрэдчас байкеры. На месцы, ва ўрочышчы, інфармацыйны стэнд: „Боровіска е одным з найбульш таемнічых міесць в околіцях Аўгустова. В урочышчы знаходзяцце православны могілкі, якіе своім расположэнём напомінают стародавнэ городішчэ. Піешчаны пагуорок, окопаны ровом, узвышаецця до 158 мэтрув н.у.м. Сходіт вуон просто в доліну, дэ з крыніць почынаецця рыэчка Любка, прыток Белуй. З крыніцямі звязана наступна легенда: *Даўно тому за сёлом, а называют людэ тое міесце* За болотом, *выступіла з-пуд зэмліе вода. То было штось буольшэ чым крыніця. Воды туолько выступіло, што пудышла вона пуод сёло і почала ёго затоп'яті. Людэ ратоваліся пэрэд водою як моглі. Нэслі туды, скуоль выплывала вода, подушкі, лён, вовну і всё, што могло бы затрыматі того плавуна. Алі тое всё ніц нэ помагало. Людэ тогды зробілі так: Найшлі вэлікі камэнь і запраглі до ёго шыэсць пар волув. Волы ледво затягнулі ёго туды, але камэнь завалів вэліку крыніцю і вода пэрэстала іті на сёло. Камэнь той было якісь час відно, а потуом вуйшов вуон у зэмлю.* Народна традыція говорыт, што на Боровіскох давным-давно стояла православна цэрква. Гісторычны крыніці з 1816 р. вспомінают о православных могілках коло Ягуштова, найхучэй на Боровісках, і о цэркові, што была на іх нэлегально побудована уніятамі. В кунцёві 80-х ліет ХХ в., по ініцыятыві інж. Б. Рудковского, вынікла ініцыятыва будовы капліčкі на крыніці. Буог натхнів однак ягуштувцов, коб на старых могілках побудоваті храм. Першая Святая Літургія была тут адслужана 29 чэрвеня 1992 г. Храм посвэтілі в чэсць св. муч. Пантелімона, святого, які здавна в Ягуштові особліво шанованы. Свято патрона 9 жнівня”.

Менавіта ў гэты дзень сабралася ў царкоўку на закінутых у лесе, каля трох кіламетраў за Ягуштовам, Баравісках адносна шмат народу, каб памаліцца асабліва шанаванаму патрону. Акафіст: *Болят наши очи греховными воззрениями, болят наши уши слушанием пустословия, злоречия, наветов — исцели ны. Болит, зело болит язык наш, уста наши: пустословием, празднословием, злоречием, отвращаясь от молитвословий и славословий, или произнося их небрежно, рассеянно, без внимания, без понятия — исцели ны, о милостиве!*

Сам узгорак, на сухім месцы, не нагадвае гарадзішча; „Старапольская энцыклапедыя”: „Pisarz arabski Al-Bekri mówi ogólnie o Słowianach z wieku dziesiątego, że chcąc budować sobie gród warowny, kierują się ku łąkom, otoczonym wodami i trzciną, tam oznaczają miejsce okrągłe, albo czworokątne, wedle kształtu i rozmiarów, jakie chcą nadać grodowi”. Магчыма, што там было язычніцкае капішча і тое месца культу захавалася пры хрысціянстве...

З Баравіска падаўся я ў бок Шастал і выйшаў на бельска-браньскую шашу. А там чарговая царкоўка, таксама нядаўняга радаводу: „До 1866 г. жыхары Шастал, якіе чуть нэ в ста процэнтах былі всэ православными, належылі до Прэчысценскуй і Мікалаевскуй цэркув в Бельскові. В сіетым жэ рокові іх долучылі до прыхода Міхайловскуй цэркві. В дэвэносты лієта з ініцыятывы о. Леонтія Тофілюка і жыхарув вёскі коло вёсковых могілок была почата побудова дэрэвянуй цэркві по проекту Захарыя Шаховіча. Краеугольны камень пуод храм Іконы Божай Маті Спорітельніцы Хлебув, заложылі 13 чэрвеня 1999 г.”.

Падаўся я асфальтоўкай у бок Бельска, але трапіў зноў у Ягуштова, значыць у прысёлак Бельска распаложаны ў вобрубе Ягуштова. Слоўнік Каралеўства Польскага з 1900 года паведамляў, што ў Ягуштове пражывала 1216 асоб, была там царква і два ветракі. А згаданы раней стэнд перад школай інфармуе, што ў 1897 годзе жыло ў вёсцы 908 асоб. Мабыць лічылі іх розныя рахункаводы. Або здарыўся дэмаграфічны цуд...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (17)

Калі я з кінаперасоўкай пачаў ездзіць у лістападзе 1962 г., у Палічнай меў шмат сяброў. Першыя кантакты з палічанскімі самадзейнікамі наладзіў у Дабрывадзе 8 мая 1960 года. Выступалі яны з пастаноўкай літоўскага аўтара на польскай мове «Pieją koguty” («Спяваюць пеўні»). Кіраўніком драмгуртка адрэкамендаваўся Ян Пятрочук — начальнік Добраахвотнай пажарнай каманды. Станоўчую падтрымку самадзейнікі атрымалі ад настаўнікаў Пачатковай школы, а перш за ўсё ад настаўніцы Лідзіі Лапінскай. У гэтым часе палічанскія пажарнікі былі ініцыятарамі грамадскіх пачынаў і культурна-асветнай дзейнасці. Завязаўся сваісты саюз у асобах Ян Пятрочук, Сцяпан Назарук і Мікалай Дудар, якія вызначалі напрамкі дзейнасці палічанскай супольнасці. У гэтым коле апынуўся і Хведар Ляўчук — навочны сведка тадышніх падзей. Вось што нядаўна мне расказаў цяперашні пенсіянер (тадышнія важакі адышлі ўжо ў лепшы свет — няхай зямля ім пухам будзе).

Пры канцы пяцьдзясят дзявятага года і ў пачатках 1960-х гадоў, — пачынае мой субяседнік, — пажарнікі актыўна ўключыліся ў ход грамадскай працы. Памятаю як з братамі Федзем і Петрусём Раманюкамі і Рэпкам з Сухавольцаў працавалі мы пры пабудове дарогі Палічна — Кляшчэлі. Не толькі мы працавалі. У абкопванні дарогі працавала ўся наша пажарная каманда. Варта адзначыць, што палічанская пажарная каманда арганізавалася ў 1934 годзе. Ад пажарнікаў у 1959 годзе паступіла ініцыятыва пабудовы пажарнага дэпо са святліцай. Самі мы вазілі будаўнічыя матэрыялы з Гайнаўкі, дапамагалі пры пабудове. На патрэбы сваёй вёскі выкапалі два супрацьпажарныя басейны, а для забеспячэння берагоў далі свае дошкі. Жыхары Палічнай атрымалі падтрымку з боку Грамадскай рады нарадовай у асобах старшыні ГРН Яна Данілюка, як не памыляюся з Чахоў-Арлянскіх, і сакратара Жоржа Леўчука са Старыны. За дарожныя справы ў гміне адказваў Янка Майстровіч, а ягоным памочнікам быў Аляксандр Зінчук. Не заставаліся на баку настаўнікі Пачатковай школы на чале з кіраўніком Антонам Леўшам і настаўнікамі Лідзіяй Лапінскай, Аннай Чыквін, Насткай Сіліванюк, Надзеяй Сулімай (Карповіч) і Надзеяй Майстровіч. З так шматлікім колам актывістаў я супрацоўнічаў у Палічнай амаль сем гадоў на пасадзе кіраўніка кінаперасовачнай брыгады «BR-9». Але аб гэтым у чарговым допісе.

■ Хведар Ляўчук з жонкай на адной з палічанскіх імпрэз — навочныя сведкі даўнейшых падзей

(працяг будзе)

❖Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

# Яблыкі ўрадзілі

У маім агародчыку ўрадзілі яблыкі і грушы. Слівы, чарэшні і вішні замерзлі. Ад спёкі яблыкі пачалі падаць заўчасна. Не было каму іх збыць. З выручкай прыйшоў сямятыцкі прадпрымальнік, які заняўся скупкайападаў для фірмы «Гортэкс». Плаціць па 50 грошаў за кілаграм. Мне сямейнікі назбіралі 109 кілаграмаў і зарабіў я такім чынам 55 злотых. Два разы столькі згніло і я вымушаны быў аддаць іх у кампост. Скупшчык аказаўся ветлівым чалавекам. У рабоце дапамагае яму жонка. У Кузаву дабраўся 17 жніўня пры поцемках амаль пятнаццаць хвілін па 21 гадзіне. Пры разліку ўручыў мне візітную картачку і прасіў прабачэння яго за тое, што доўга прыйшлося мне яго чакаць.

— Але як абяцаў кузаўцам, што прыеду, дык стрымаў слова.

Такіх бы нам больш прадпрымальнікаў у рынчанай эканоміцы. Факт варты перайманя. А скупкай яблык займаецца Кшыштаф Кавальчук (тэлефон: 506-648-698).

Варта затым пакарыстацца паслугамі гэтага прадпрымальніка.

**(ус)**

# http://belaruspolicy.com

Апошнім часам беларускі правіцель зноў завёў сваю старую песню пра так званую непаўнавартасць беларускай мовы. Так, 13 жніўня ў інтэрв'ю тэлеканалу «Россия 24» Аляксандр Лукашэнка заявіў, што не можа гаварыць па-беларуску, бо «ў беларускай не заўжды можна знайсці патрэбныя для размовы словы», «беларуская мова параўнальна маладая. Бо ў шмат якіх пытаннях, тэмах, асабліва ў тэрміналогіі (фізіка, хімія, матэматыка), у нас папросту няма адпаведных паняццяў у беларускай мове». Калі сур'ёзна прыслухоўвацца да такіх выказванняў першай асобы Беларусі, то нічога, акрамя здзіўлення і нават страху за гэтую краіну і яе прэзідэнта не ўзнікае.

Па-першае дзіўна, што прэзідэнт беларускай дзяржавы, які кіруе ёй ужо амаль чвэрць стагоддзя, усё яшчэ мае такі бедны беларускі слоўнікавы запас. Па-другое, няўжо сярод ягонага атачэння няма ніводнага чалавека, які б мог навучыць гэтага небараку ў поўнай меры авалодаць беларускай мовай для таго, каб данесці на ёй свае мудрыя думкі электарату? Па-трэцяе, няўжо для мовы, на якой, як сцвярджае афіцыёз, паўтысячагоддзя як друкуюцца кнігі, 500 гадоў гэта ўсё яшчэ малады ўзрост? І па-чацвёртае, як так сталася, што беларуская мова цягам амаль стагоддзя не можа выпрацаваць сучасную навуковую тэрміналогію, нягледзячы на дзейнасць разнастайных інстытутаў і наяўнасць цэлай Акадэміі навук?

Здаецца, Лукашэнка як заўсёды выдае жаданае ім за рэчаіснасць. Ёсць у беларускай мове ўся неабходная навуковая тэрміналогія і выдатна знаходзяцца патрэбныя словы для выражэння думак і пачуццяў. Адным са сведчанняў гэтаму можна назваць сайт у інтэрнэце, які месціцца па адрасе http://belaruspolicy.com.

«BelarusPolicy.com — супольны праект Цэнтра Астрагорскага і Беларускай даследчай рады. База дадзеных утрымлівае больш за 450 даследаванняў у сферы замежнай палітыкі, кіравання, эканомікі, бяспекі і грамадства», — распавядаюць пра свой праект беларускія навукоўцы, якія ў адрозненні ад беларускага правіцеля з лёгкасцю карыстаюцца беларускай мовай у сваіх даследаваннях. Таму наўрад ці мова вінаватая, што нехта не можа на ёй размаўляць.

Што ж тычыцца сайта, то ён прызначаны больш для тых, хто займаецца навукай па вышэй азначаных напрамках. Нейкіх аздабленняў і ўпрыгожанняў там не сустрэнеш. Ствараецца ўражанне, што патрапіў у нейкую навуковую бібліятэку, дзе ўсё добра сістэматызавана і зроблена менавіта для таго, каб з лёгкасцю адшукаць патрэбнае даследаванне ці яго аўтара. Прычым зрабіць гэта можна не толькі на беларускай, але на рускай і англійскай мовах.

На сайце пасярэдзіне выяўлення падаюцца тыя даследаванні, якія найбольш зацікавілі чытачоў апошнім часам. Наведвальнікаў навуковага партала больш вабілі тэмы «Беларусь і Еўрасаюз», «Беларускае войска», «Макраэканамічная дынаміка Беларусі 2014: валютны шок на фоне стагнацыі» і «Аналіз сектара Рэспублікі Беларусь, суб'екты якога — некамерцыйныя аб'яднанні прадпрымальнікаў».

Унізе цэлага выяўлення знаходзяцца банэры разнастайных грамадскіх арганізацый, якія займаюцца навуковай і даследчыцкай дзейнасцю, а таксама партнёраў рэалізатараў праекта.

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

### Сапраўдны народны паэт

# 100 гадоў з дня нараджэння Пімена Панчанкі

Беларускі паэт Пімен Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 г. у эстонскім Таліне. Бацькі — бедныя сяляне — апынуліся там у пошуках лепшай долі, выехаўшы на заробкі. Ваенныя цяжкасці, адсутнасць у хаце гаспадара, які быў у войску, ускладнілі і без таго нялёгкае жыццё салдаткі Дар'і Панчанка. З двума дзецьмі на руках ёй было цяжка ў чужым горадзе, і жанчына ў 1920 годзе падалася да маці. Там, у Бягомлі (цяпер Докшыцкі раён), прайшлі дзіцячыя і ранняя юнацкія гады паэта.

У 1933 г. сям'я Панчанкаў пераехала ў Бабруйск, і Пімен пачаў працаваць на мясцовым дрэваапрацоўчым камбінаце рабочым, затым паступіў на настаўніцкія курсы. Пасля іх заканчэння працаваў у пачатковай, сямігадовай, сярэдняй школах у Бабруйскім і Кіраўскім раёнах (1934-1939 гг.). Адначасна вучыўся завочна на філалагічным факультэце Мінскага настаўніцкага інстытута, які скончыў у 1939 г.

Пісаць пачаў у юнацтве. Упершыню апублікаваў свае вершы ў 1934 г. у альманаху „Ударнікі". Як паэт ён пачаўся з лірыкі, пра што сведчаць яго першыя зборнікі „Упэўненасць" (1938) і „Вераснёвыя сцягі" (1940). Паэтычную сталасць Панчанку прынеслі вершы, напісаныя ім у час вайны. З верасня 1939 г. да студзеня 1946 г. у Савецкай Арміі — спецыяльны карэспандэнт, пісьменнік у армейскіх і франтавых газетах. На франтавых дарогах ён балюча перажываў трагедыю беларускага народа. Яго ваенныя радкі прасякнуты верай у перамогу над ворагам, суперажываннем, спагадай да чужога гора. Браў удзел у паходзе ў Заходнюю Беларусь. Пазней быў Бранскі, а затым — Калінінскі франты, дзе Панчанку даручылі працу на франтавой газеце „За свабодную Беларусь" і ў сатырычным часопісе „Партызанская дубінка". Адтуль пераведзены на Паўночна-Заходні фронт пад Старую Русу. У 1944 г. штаб, дзе служыў Пімен Панчанка, перакінулі ў Іран. Яшчэ два гады паэт быў адарваны ад Радзімы. У Іране ім створаны вядомы цыкл вершаў „Іранскі дзённік". Ваенныя ўражанні паэта склалі зборнікі „Дарога вайны", „Далёкія станцыі", „Гарачыя вятры". Ваенная тэма не пакідала паэта цягам усяго жыцця.

У 1946 г. паэт дэмабілізаваўся. Вяртаецца ў Мінск і пачынае працаваць у часопісе „Вожык", пазней перайшоў у газету „Літаратура і мастацтва". Пяць гадоў (1953-1958) рэдагаваў альманах „Советская Отчизна" (пазней „Нёман"). У пасляваеннай паэзіі Панчанкі часцей гучаць грамадзянскія матывы: выходзяць зборнікі паэта „За шчасце, за мір", „Шырокі свет", „Кніга вандраванняў і любові", „Нью-Йоркскія малюнкі", „Тысяча небасхілаў". Лірыка-публіцыстычная паэма „Патрыятычная песня" была ў 1959 г. узнагароджана Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.

З 1966 г. працаваў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Выпусціў кнігу вершаў „Пры святле маланак". З 1972 г. на творчай дзейнасці. Спалучаў яе з абавязкамі дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. У 1973 г. Пімену Панчанку нададзена ганаровае званне народнага паэта Беларусі. Перакладаў з іншых літаратур. Другая палова 1980-х — пачатак 1990-х гг. былі ў жыцці паэта ці не самымі цяжкімі. Даймалі шматлікія хваробы. Ён амаль што не выходзіў з бальніцы. Пачаліся і матэрыяльныя нястачы. Але ён заўсёды выступаў у абарону беларускай мовы.

Памёр паэт 2 красавіка 1995 года. Пакінуў шматлікія публіцыстычныя артыкулы і эсэ, успаміны пра вядомых беларускіх пісьменнікаў і падзеі літаратурнага жыцця. Імя Пімена Панчанкі носіць вуліца ў Мінску, а на доме, дзе ён жыў (вуліца Пуліхава, 29) усталявана мемарыяльная шыльда.

❖Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Жніўныя пейзажы

Калі еду на аўтамабілі, час бяжыць хутка, а калі на роверы — нашмат вальней. Не выязджаю ў далёкія падарожжы між іншым таму, што калі я далёка ад хаты, бяжыць ён хутчэй чым тады, калі сяджу ў хаце.

Для мяне кожная хвіліна каштоўная. Не ведаю колькі іх мне засталося, напэўна няшмат, але мабыць больш чым 95-гадовай Надзеі Азябла з Пянькоў. Ці будзе гэта наша апошняя сустрэча? Ровар натхняе на рэфлексію, асабліва ў месцах аддаленых ад людзей. Самая кароткая дарога з Крынак у Міхалова вядзе праз цёмны лес. Летняе, сонечнае надвор'е спрыяе падарожжу. З цудоўнага паўсну прачынаюся на самой мэце — у Пяньках. Моташны пах штучных угнаенняў адбірае дых. Пры дарозе ў кукурузніку стаіць вялікая дошка з назвай кампаніі, якая «корміць» сваім смуродам гэты ж кукурузнік. Спешна з'язджаю з галоўнай шашы ў вёску.

Спадарыня Надзея жыве там з сынам, ягонай жонкай і двума ўнукамі. Гаспадароў сустракаю ў гумне. Нявестка Марыя адстаўляе вілы, каб завесці мяне да бабулі. Яна настолькі занятая працай, што нават галошаў дома не ззувае. Зараз прыносіць усякія ласункі. Каштую кампот з першых яблык і малін. Смакуе незвычайна, так як незвычайнай з'яўляецца сама Марыя. Спадарыня Надзея не частуецца. Цяжка ўжо ёй з ложка падняцца. Найважнейшае, што з галавой усё ў парадку. Марыя просіць прабачэння і вяртаецца да сваіх абавязкаў. Надзя хваліць нявестку, асабліва за яе незвычайную працавітасць. Жніўны перыяд заўсёды найцяжэйшы. Колькі ж гэта няшчасных выпадкаў здаралася ў полі дзецям перагружаных працай бацькоў! Каму пальцы адрэзала, а каму цэлую руку. І да спеваў нікому не было. На гэта ўжо сіл не хапала. Але прыпомнілася Надзі адна песня маладой жнейкі, якую наймаў да работы хрышчоны Васіль.

— Заспявай «Васіля», — звяртаўся ён да дзяўчыны.

— *Эй там на балоці, Васіль сено косіт, а яму Марыля дзеціну прыносіт. Васілю, Васілю, на табе дзяціну, а як ты не возьмеш, на прыкосі кіну.*

Звычайна маці Васіля адказвала ёй:

— *На табе, Марылю, каня варанога, перастань любіці сына маладога.*

А дзяўчына ў сваю чаргу дабаўляла: — *Нашто мне, матулю, конь вароны здаўся, калі ж мне, матулю, сын твой спадабаўся!*

Жніво дзяцінства і маладасці Надзеі пахла хлебам і салам на пяць пальцаў. Кумпякі елі толькі самыя багатыя гаспадары.

У вёсцы жыў тады адзін багаты хітрун, які, наняўшы працаўнікоў, не даваў ім есці.

— Знаеце, хлопцы, — маўляў у час абедзеннага перапынку, — я вельмі люблю ў кампаніі працаваць, але есці люблю адзін.

А хлопцы і не падумалі, што такі багацей будзе шкадаваць ім хлеба.

— Часта так бывае з багатымі, — тлумачыць Надзея, — таму ніхто іх не любіць.

Няма ўжо ні хлеба, ні сала ні ў бедных, ні ў багатых. А там, дзе калісь пахла спелае збожжа, цяпер расце смярдзючая штучным агнаеннем кукуруза.

**Іаанна ЧАБАН**




У бібліятэкі горада Седльцы Беларускае гістарычнае таварыства перадало каля 200 кніжак, выдадзеных як БГТ, так і Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва». Выданні на беларускай і польскай мовах прысвечаны жыццю нашага рэгіёна, беларускай супольнасці, польска-беларускім узаемаадносінам і дзейнасці Праваслаўнай царквы. Прафесар Алег Латышонак сказаў «Ніве» наступнае: «Нам залежыць, каб з гісторыяй беларусаў Падляшша пазнаёмілася як найшырэйшае кола чытачоў, асабліва з Падляшша. Пры тым Седльцы гэта важны рэгіянальны навуковы асяродак, тут працуюць і вучацца не толькі выхадцы з паўднёвага Падляшша, але і прыезджыя жыхары Беларусі». Ад імя Беларускага гістарычнага таварыства кнігі ў Галоўную бібліятэку Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта, Публічную гарадскую бібліятэку і Педагагічную бібліятэку перадаў прафесар Адам Бобрык.

— Да гэтай пары ва ўніверсітэцкай бібліятэцы была 301 кніжка на беларускай мове. Гэты падарунак папоўніць нашу калекцыю беларусіянаў. Многія нашы студэнты цікавяцца беларускім пытаннямі і перададзеныя нам кнігі ім спатрэбяцца, — сказала дырэктар Галоўнай бібліятэкі ПГУ Эва Казарская.

У Публічнай гарадской бібліятэцы дырэктар Ядвіга Мадзьяр з 2012 г. падпісваецца на «Ніву», якой можна карыстацца ў чытальні. З радасцю прыняла яна кніжны падарунак, адзначаючы пры тым, што ў ліку 16 тысяч чытачоў ёсць асобы, якія праяўляюць зацікаўленасць беларускімі справамі і шукаюць выданняў на гэтую тэму. А ў Педагагічнай бібліятэцы значная частка выданняў была пакладзена на стол, каб чытачы маглі іх узяць бясплатна. Гісторык Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта д-р Рафал Дмоўскі пракаментаваў гэта наступным чынам: «Гэта дзіўнае, але ёсць і станоўчыя бакі. Так ці інакш, але кнігі трапілі да чытачоў. Дзякуючы таму і я таксама папоўніў сваю бібліятэчку». Несумненна, што ў выніку акцыі Беларускага гістарычнага таварыства і тыднёвіка «Ніва» выданні аб беларусах і Беларусі сталі ў Седльцах больш даступнымі.

Тэкст і фота **Кшыштафа БОБРЫКА**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. складны паўкруг, якім абмахваюцца ў духату = 18 _ 19 _ 20 _ 9 _;
2. валасок на краі павекі = 5 _ 6 _ 27 _ 1 _ 2 _;
3. умацаваны абарончы агнявы пункт (***д**ерево**з**емляная **о**боронча **т**очка*) = 38 _ 10 _ 22 _ 21 _;
4. не кароткае, але найглыбейшае возера ў Беларусі = 34 _ 33 _ 13 _ 32 _ 29 _ 8 _;
5. найменшы палец на руцэ = 25 _ 26 _ 39 _ 40 _ 23 _ 24 _ 7 _;
6. паверхня на сцяне з жывапіснымі відарысамі = 11 _ 15 _ 14 _ 12 _;
7. пінская рака = 30 _ 41 _ 28 _ 37 _;
8. гранічная баснійска-харвацакая рака = 35 _ 36 _ 31 _;
9. „доўгая" паўднёваамерыканская дзяржава = 16 _ 17 _ 3 _ 4 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | | | | 18 | 19 | 20 |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | | 25 | 26 | 27 |
| | 28 | 29 | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |
| | | | | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Чэх, Цітоў, інжыр, Біой, даўніна, Рагуля, зіма, морква, гной, дарога, філе, вілает.

Рашэнне: **Хто ў жніўні гуляе, той зімой галадае**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЫЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 27.08 — 02.09

**(22.03. — 20.04.)** Твае капіталы прыкметна вырастуць. На працы, у справах і бізнесе чакаюць цябе прыемныя нечаканасці. Умацоўвай супрацоўніцтва з дзелавымі партнёрамі і пацвярджай свой аўтарытэт. Але будзь асцярожны з новай інфармацыяй і не прымай неабдуманых рашэнняў. Займіся зараз рашэннем галоўнай праблемы, скончы асноўныя справы — усё астатняе пакуль можа і пачакаць.

**(21.04. — 21.05.)** Увесь тыдзень табе будзе спадарожнічаць поспех у адносінах з процілеглым полам. Для цябе і тваіх блізкіх адкрыюцца спрыяльныя перспектывы. Хай цябе не турбуюць якія-небудзь непрыемнасці: хутка яны бясследна знікнуць. І не забывай, хто з'яўляецца найбольш важнымі людзьмі ў тваім жыцці: надай больш увагі і часу сваім дамачадцам.

**(22.05. — 22.06.)** Праява неспрыяльнай энергетыкі можа выклікаць у тваім жыцці хаос і напружанне. Адмяні важныя планы і надай большую ўвагу самому сабе. Калі ты не можаш паклапаціцца пра сваё здароўе неадкладна, то ў далейшым сутыкнешся з праблемамі.

**(23.06. — 23.07.)** Праява неспрыяльнай энергетыкі можа выклікаць хаос і напружанне ў тваім жыллі. Павышаецца небяспека, звязаная з агнём і электрычнасцю. Каб абараніць свой дом ад удару маланкі, павесь у заходнім куце галінкі рабіны і прамоў: «Гэта знак і друк саюза паміж Зямлёй і Небам. Няма вакол яго ні разбурэння, ні вайны паміж нізам і верхам, агнём і вадой, Небам і Зямлёй». Калі не маеш рабіны, кінь у агонь печкі (або спаліце над полымем свечкі) трохі хваёвых іголак і скажы такія словы: «Прымі, нябесны агонь, гэтую ахвяру ад мяне і ад маці-зямлі, не разбурай гэты ачаг і гэты дом ні сваёй стралой паражальнай, ні сваім полымем спапяляючым. Хай будзе спакой паміж Небам і Зямлёй».

**(24.07. — 23.08.)** Рухайся ў агульным патоку і не выяўляй ініцыятывы: на гэтым тыдні яна застаецца бескарыснай. Займайся рашэннем галоўнай праблемы, канчай асноўныя справы. Будзь асцярожны з электрапрыборамі, асабліва калі яны падключаныя да электрасеткі. Магчыма, ты ці твае блізкія могуць падвергнуцца якому-небудзь негатыўнаму ўздзеянню.

**(24.08. — 23.09.)** Энергія Сусвету падтрымае твае планы па змене ладу жыцця. Зрабі свядомы выбар, каб пазбавіцца ад непатрэбных рэчаў і спыні зносіны з людзьмі, якія прыносяць хаос у тваё жыццё. Калі на гэтым тыдні ў цябе не падніамецца прыгатаванае цеста, то вельмі магчыма, што ў хуткім часе раскрыеш хлусню і падман блізкіх людзей.

**(24.09. — 23.10.)** Вельмі верагодна, што гэты тыдзень пачнецца з канфлікту. Праява неспрыяльных энергетык можа выклікаць у тваім жыцці хаос і напружанне. Адмяні свае планы і надай больш увагі свайму здароўю. Добра было б заняцца вязаннем на прутках.

**(24.10. — 22.11.)** Вельмі табе схочацца чымсьці дапамагчы іншым людзям, аднак будзь стрыманым, інакш залезуць табе на шыю. Пазбягай вялікага фізічнага напружання і не прабуй рабіць больш, чым можаш, і казаць тое, чаго не ведаеш. Калі на гэтым тыдні ў цябе выкіпіць уся вада з забытага на пліце чайніка, гэта павінна стаць для цябе папярэджаннем аб сур'ёзнай небяспецы, звязанай з вадой. Адкладзі да лепшых часоў марское падарожжа і не купайся ў бліжэйшыя дні ў рацэ ці басейне.

**(23.11. — 22.12.)** Не варта душыць сваю павышаную эмацыянальнасць: хай уся назапашаная ў табе энергетыка пачуццяў і жаданняў выйдзе вонкі. Не адштурхвай свой поспех: цяпер можаш зрабіць выдатныя набыткі. Прадпрымальніцтва і гандаль будуць паспяховымі. Неадкладна пачні клапаціцца пра сваё здароўе, каб пасля не мецъ сур'ёзных праблем. Калі разбаліцца зуб, адразу ж адпраўляйся да лекара.

**(23.12. — 20.01.)** Твае пачуцці возьмуць верх над логікай і гэта стане прычынай многіх тваіх промахаў. Але маеш магчымасці і сілы супрацьстаяць усім негатыўным момантам. Адкінь раздражнёнасць і паспрабуй глыбей услухоўвацца ў тое, што кажуць знаёмыя і сваякі. Іх парады акажуцца для цябе вельмі выгаднымі.

**(21.01. — 19.02.)** Твой талент будзе ацэнены. Адкрыюцца новыя магчымасці, і атрымаеш перавагу над іншымі. Твае даходы пачнуць павялічвацца. Трэба табе будзе ўдзельнічаць у грамадскіх і дзелавых сустрэчах. Засяродзься на справах і даходных мерапрыемствах, трымайся ў баку ад эмацыйных канфліктаў.

**(20.02. — 21.03.)** Падзеі, якія адбываюцца з табою, павінны быць падвергнуты грунтоўнаму аналізу. Разгледзь сітуацыю з усіх бакоў, абдумай усе магчымыя шляхі яе зыходу і прымі адзінае правільнае рашэнне. Можаш у корані змяніць сваё становішча. Не спяшайся ў панядзелак даваць згоду на ўдзел у якой-небудзь важнай справе: магчымыя памылкі, багатыя сур'ёзнымі наступствамі ў адносінах з людзьмі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (95)



Жыццё пакацілася непрадбачаным, выбоістым шляхам. Спачатку прыйшлі саветы, пасля немцы і доўга абстрэльвалі з-за ракі мястэчка. Жыхароў Нобеля перасялілі на Данбас.

— На месцы застаўся толькі старэнькі бацюшка Міхаіл і сям'я Адамука, — успамінае баба Маня. — Усе перажылі, немцы іх не чапалі. А мы ледзь не сканалі ў бежанстве, голыя і босыя вярнуліся на радзіму.

На Данбас дабіраліся цягніком. На месцы чакала пекла, перасяленцаў заставілі працаваць у шахтах. Маладзенькая Марыя грузіла на вазкі вугаль, цягнула іх наверх, падмяняла знямоглых старэч. Не ведае, адкуль знаходзіліся сілы. Бо прыбяжыць дамоў, а там галодныя дзеці плачуць.Трэба было раздабыць харчы, пракарміць сям'ю, прыгалубіць сіротак. Калі памерла іх маці, наймалодшаму брацiку споўніўся годзік. Ад голаду, холаду, згрызот і цяжкай працы Марыя захварэла на тыф:

— Нас дзесяць чалавек ляжала, без яды, без дактароў. Дзесяць дзён праваляліся! Думалі, што канец будзе. Дык не, Гасподзь не дазволіў. Усе *выдужалі*.

Марыя і яе родныя шчасліва вярнуліся ў Нобель. Адзін канец мясціны, той ад школы па яе Ражок, цалкам згарэў.

— Немцы ў час абстрэлаў *паранілі* царкву, — прыгадвае старажылка, — то нашы мужчыны адразу ўзяліся яе ладзіць...

Гора не абмінула сям'і Марыі. Яшчэ ў пачатку вайны ажаніўся найстарэйшы брат. У маладажонаў нарадзіўся сынок. Нядоўга цешыліся шчасцем. Брата мабілізавалі на фронт. Калі сям'я вярнулася з Данбаса, на месцы чакала сумная павестка: брат загінуў у баі. Год пазней ад жалю сканала братавая. Іх сынок застаўся круглай сіроткай, людзі намаўлялі аддаць яго ў дзетдом. Марыя не хацела такога слухаць. Як аддаць дзіцятка ў чужыя рукі? Хто яго там суцешыць, прыгалубіць? Яна прыгарнула пад свае крылы яшчэ адну сірату.

* * *

Гора і плач, як успененыя хвалі на возеры, прыбівалі да берага, а пасля адплывалі, дрэннае забывалі, жыццё вярталася на свае кругі. Прага жыцця ніколі не пакідала Марыю. Нават у пажылыя, пазначаныя хваробамі гады захавала жывы інтэлект, пачуццё справядлівасці і адкрытасць на людзей. У маладосці цягнула яе ў Пінск. Да вайны Нобель лічыўся амаль як прадмесце Пінска. Кожны спяшаў на рынак штосьці прадаць або купіць ці звычайна палюбавацца натоўпам. Памятае, як падлеткам выпраўлялася з бацькам у Пінск. У чаўне стаяла пяць або шэсць мужчын. Усе веславалі. Яна таксама не хацела быць горшай, брала ў рукі вясло, дапамагала. Большасць месца займалі мяшкі са збожжам, не было дзе прысесці. Адпачынак ладзілі па дарозе, у сёлах на Прыпяці. Часта там ужо выглядалі іх купцы, тавары скуплялі па ніжэйшай цане. У Пінск дабіраліся ажно позним вечарам. Вячэралі і начавалі ля прыстані, у лодках. Была ў гэтым рамантыка і здаровая выгада. Людзі, пакуль не паснулі, абмяркоўвалі ўсё на свеце. На беразе разносіўся сцішаны гоман, мяшаліся галасы і гаворкі. Марыя пакуль не засне, узіралася ў зорнае неба. Думала пра заўтрашнія пакупкі. Раніцай прыходзілі гандляры і проста з лодкі скуплялі тавары. Пасля карысная здзелкі мужчыны ішлі ў карчму на сто грам. Іншыя адпраўляліся на горад па сваіх справах, наведвалі сваякоў, знаёмых.

А як вярталіся дамоў?

Пасля абеду, калі ўжо раз'язджаліся з рынку, займалі свае месцы ў чоўне. Зараз рухаліся пад плынь, дарога здавалася даўжэйшай, вёслы цяжэйшымі. У палове дарогі, у Хвойнаве, спыняліся на начлег.

— Людзі запрашалі дахаты, — прыгадвае Марыя, — частавалі вячэрай, добрым словам. Спаць лажыліся на падлозе, покатам. Часам гаспадар прыносіў куль саломы, раскідаў на падлозе. Ніхто не наракаў на недахоп камфорту, наадварот, прысмак суровай прыгоды мацаваў дух у кампаніі, падбадзёрваў. Мужчыны даказвалі, рагаталі. Марыя, якую кампанія яшчэ не прыкмячала, адчувала сябе надта важнай. Звычайна, наблянкі хадзілі ў Пінск пяшком. Яна сама ў галодныя пасляваенныя гады стане *спекулянткай* і будзе з сяброўкамі насіць з Пінска хлеб.

* * *

Пытаю, колькі кіламетраў з Нобеля ў Пінск. З канца шасцідзясятых гадоў між мясцінамі стане курсаваць аўтобус, адлегласць зробіцца яшчэ карацейшай. Аўтобус паўплывае на жыццёвыя выбары многіх наблян. Шмат моладзі паедзе вучыцца ў Беларусь, застанецца там жыць. Зараз у сяле цяжка знайсці хату, дзе няма сваякоў у Пінску, Берасці ці Мінску.

Пытаю бабу Марыю, чаму падарожжа чоўнам цягнулася ажно цэлы дзень у адзін бок?

— Па рацэ ў Пінск каля сямідзесяці кіламетраў, — мяркуе старажылка, — напрасткі, сухадоламі, у два разы карацей. Калісь кожную адлегласць вызначалі гадзінамі маршу.

— Як выйдзем у шэсць гадзін раніцы, дык на абед зойдзем у Пінск.Там стараліся чым хутчэй запасціся таварам. Адна сястра і суседка працавалі на складзе, дык яны заранёў адкладалі што трэба. Бо тады прыходзілася выстойваць гадзінамі ў чэргах за хлебам. Крызіс панаваў, нічога не было ў магазінах, — успамінае.

Назад з дванаццаццю боханамі хлеба вярталіся ўжо без спеху, адпачывалі па дарозе. Хлеб грузілі ў радзюгу, каб выгадней было несці, клунак закідалі за плечы. Спраўляліся да захаду сонца.

Калі баба Маня бачыць недавер у маіх вачах, весела заяўляе:

— А вечарам, калі ў клубе музыкі, то я на танцы яшчэ ляцела. Ды там *выкручывалася* і скакала. Усякія кракавякі, полечкі, хоць найбольш падабаўся падыспан... Яго гулялі ў пары, і абавязкова з хлопцам.

Пра замужжа не думала. Трэба было падгадаваць дзяцей, выправіць іх у людзі. Той хлопец, з якім калісь хацеў ажаніць яе настаўнік Генрык Дамброўскі, у вайну страціў бацькоў, застаўся круглым сіратой. Ні хаты, ні грошай у яго не было. Дык бацька не дазволіў з ім сустракацца. Навошта яшчэ адзін галяк у хаце?!

— А мы любілі адзін аднаго, — на момант твар бабулі маладзее, — паглядалі на сябе то з жалем, то з пяшчотай. Калісь так жылі, што супраць волі бацькі не пойдзеш!

* * *

У часы калектывізацыі зноў прыйшлося жыць без грошай. За працу ў калгасе плацілі жытам. Дастатак залежаў ад ураджаю. Калі прыходзілі дажджлівыя гады, галадалі. Марыі пашанцавала ўладкавацца прыбіральшчыцай у сельсавеце, дадатковы штат атрымала ў клубе. Зарабляла сто рублёў, вялікія грошы на сяло.

— Я з роду не піла, не гуляла, — хваліць сябе баба Маня, — дык заўсёды пры грашах была. Вось, каб набыць шафу з люстрам, шмат гадоў ашчаджала. Яшчэ і за транспарт прыйшлося заплаціць дадатковыя грошы. Шафу прывезлі параплавам з Пінска. Мала ў каго была такая элегантная мэбля. Клапацілася, каб заўсёды было што паесці, каб панавала згода. Каб весялей было ў хаце, прыаздабляла сцены вышыванкамі і тканымі дыванамі.



З часам сямейная абстаноўка адмянілася. Памёр бацька. Сёстры і брат з'ехалі жыць у Адэсу. Наймалодшы з сям'і, той гадунец-пляменнік, вывучыўся на інжынера. Ён таксама адбіўся ад роднай хаты, уладкаваўся ў Львове. У Нобелі застаўся адзін брат. У яго былі свае дзеці і свае клопаты. Марыя, якая ахвяравалася для сям'і, не была нікому патрэбнай...

Праўда, лёс яе не падвёў. Чакалі яе новыя навукі і ахвяраванні. Аднак, пакуль раскажа як атрымала благаслаўленне на лячэбныя замовы, спярша спяе песню са сваіх маладых гадоў. У ёй, як у сапраўдным жыцці Марыі, героі перамяшчаюцца па вадзе, сохнуць з-за нешчаслівага кахання, і хаця разлучыла іх магіла, вядуць балючыя размовы...

Повэчэраю одна, да гэй!  
Повэчэраю одна,  
Мого мілого нэма.

Дэсь поехав по Дону, да гэй!  
Дэсь поехав по Дону,  
Я до його поплыну.

Я до його поплыну, да гэй!  
Я до його поплыну,  
Там могылу я знайду.

Устань мылы, пробудысь, да гэй!  
Устань мылы, пробудысь.  
Мэнэ мілы догляды.

Ой нэ можу мыла встать, да гэй!  
Ой нэ можу мыла встать,  
Мої раны так болят.

Мої раны так болят, да гэй!  
Мої раны так болят.  
Буду врагув проклінать.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 35